


# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

№ 3 (5) Сакавік 1994 March Год выд. 2


## ЗА ІДЭЮ 25-га САКАВІКА

Гэтая падзея была найвялікшым пераломным мамэнтам у жыцьці Беларускага Народу й запачаткавала сабою новы пэрыяд у гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Да 25 сакавіка беларускі рух ня меў яшчэ перад сабою выразна азначаных палітычных пэрспэктываў, ня быў яшчэ ідэалягічна спрэцызаваным. Беларускі нацыянальна-палітычны актыў, што кіраваў гэтым рухам, блудзіў і губляўся яшчэ ў розных фэдэральных, аўтаномных, нярэдка толькі ў культурна-аўтаномных канцэпцыях, не асьмельваючыся нат і думаць аб поўным разрыве з Расеяй і аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Пэрыяд дасакавіковы можам тады сьмела назваць пэрыядам шуканьня сталай і агульнавызнаванай нацыянальна-гаспадарстваўскай канцэпцыі, пэрыядам крышталізаваньня беларускай нацыянальнай ідэалёгіі, на якой-бы гэтая канцэпцыя абапіралася. Што гэтыя шуканьні йшлі па правільнай лініі народных патрэбаў і адказвалі імкненьням Беларускага Народу, даводзіць факт, што яны прывялі да поўнае й бліскучае перамогі незалежніцкай ідэі, выражанай у Акце 25 сакавіка.

Вось чаму Акт 25 сакавіка 1918 г. распачынае ў беларускім нацыянальна-вызвольным руху новы гістарычны пэрыяд — пэрыяд незалежніцкі. Ад гэтага часу беларуская палітычная думка разьвіваецца ўжо ў вадным, выразна спрэцызаваным незалежніцкім кірунку, стаўляючы сваей канчальнай мэтай, сваім найвялікшым ідэалам — вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны.

Акт 25 сакавіка ня быў прыпадковым зьявішчам, абумоўленым спрыяльнымі абставінамі часу, ня быў справаю толькі патрыятычнае інтэлігенцыі ці ейнае найбольш энтузіястычнае групы, але ідэі гэтага вялікага Акту былі арганічнаю часткаю агульнанародных імкньняў, агульнанароднае волі.

Вось чаму ідэя 25 сакавіка была спантанічна падхопленая ўсім Народам, які яе энтузіястычна прыняў і за ейнае ажыцьцяўленьне кінуўся ў няроўнае змаганьне. Славутае Слуцкае Паўстаньне й цэлы рад іншых збройных чынаў супраць акупантаў праходзілі пад сьцягам БНР, разгортваліся ў імя незалежніцкае ідэі. За гэтую ідэю найлепшыя сыны Беларускага Народу адважна йшлі на сьмерць, у турмы, на мукі ў ссылках далёкага Сібіру ці палярнай Поўначы, каб сваей крывёю і жыцьцём сваім задакумэнтаваць веліч, сьвятасьць і несьмяротнасьць гэтае ідэі. Ідэя 25 сакавіка сталася агульнанароднай ідэяй і на столькі папулярнай і неадлучнай у масах, што ня было й няма сяньня ніводнай беларускай палітычнай партыі ці арганізацыі, ніводнага нацыянальнага пачынаньня, дзе-бы гэтая ідэя, як найвялікшая канчальная мэта, ня была вызнаваная і акцэнтаваная. Навет зацятыя ворагі незалежнасьці Беларусі й усякія чужацкія экспазытуры сярод Беларускага Народу змушаныя навонкі маніфэставаць ідэю 25 сакавіка і маскаваць ёю свае запраўдныя праступныя намеры, бо ў праціўным выпадку ня мелі-б яны найменшай папулярнасьці ані ўплываў.

Беларуская незалежніцкая ідэя, выражаная ў Акце 25 сакавіка, як і ўсякая іншая творчая й жывая ідэя, з году ў год мацнее ў сэрцах Беларускага Народу й становіцца канкрэтным зьместам усяе беларускае палітычнае, грамадзкае й культурнае дзейнасьці. Яна з кажным годам здабывае сабе што раз больш фанатычна адданых ёй вызнавальнікаў, павялічае што раз большыя рады няўтомных замагароў за ейнае ажыцьцяўленьне. Яна й сяньня зьяўляецца жывой і творчай у Беларускім Народзе.

У гэтым найлепшая зарука таго, што Народ, узброены вялікай вызвольна-незалежніцкай ідэяй, не загіне, ня гледзячы на тое, якой цяжкой ягоная няволя ня была-б, але скрышыць усе перашкоды на сваім цярністым шляху й дойдзе да поўнае перамогі. У гэта мы моцна верым, у гэта верыць увесь шматмільённы Беларускі Народ!




МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## Пагоня

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах, -
Успомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.
У белай пене праносяцца коні, -
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.
У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?
Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?
Біце ў сэрцы іх, біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...
Маці родная, маці-Краіна!
Не усцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, ты прымі свайго сына,
За цябе яму ўмерці дазволь!..
Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

## АКТ 25-га САКАВІКА
### Трэйцяя Ўстаўная Грамата БНР

Год таму назад народы Беларусі, разам з народамі Расеі, скінулі ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усіх прыдушыла Беларусь; ня пытаючыся народаў, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады й вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада БНР, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны й незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго устаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На падставе гэтага траццяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь Трактат у Берасьці, што забівае насьмерць беларускі народ, дзелячы яго на часткі. На падставе гэтага Ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, запрапанаваўшы ім перагледзець тую частку Берасьцейскага трактату, якая датычыць да Беларусі й падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве й мае лічбовую перавагу беларускі народ: а ласьне: Магілеўшчыну, Меншчыну, Віцебшчыну, Горадзеншчыну, Віленшчыну, Смаленшчыну й сумежныя часткі Чарнігаўшчыны й Пскоўшчыны, заселеных Беларусамі.

БНР пацьвярджае ўсе тыя правы й вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Ўстаўнай Граматай ад 9-га сакавіка 1918 г.

Абвяшчаючы аб Незалежнасьці БНР, Рада яе ўскладае свае надзеі на тое, што ўсё любячыя волю народы памогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

25 сакавіка 1918 г. Менск. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

## БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ МЕЦЬ ПРЭЗЫДЭНТА!!!

Пра неабходнасьць увядзеньня пасады Прэзыдэнта ў Беларусі, Вярхоўны савет прыняў адпаведную пастанову. Назначаны (няведама ці канчатковы) тэрмін выбараў Прэзыдэнта. У наступным выданьні нашае газэты мы больш дэталёва аб гэтым пагаворым...

*АКТ 25-га Сакавіка – гітарычная падзея, аб якой будуць памятаць пакаленьні беларусаў-літвінаў. Беларуская эміграцыя ўжо дзесяткі гадоў адзначае гэты сьветлы дзень ува ўсіх краінах свайго расьсяленьня.*

*У гэты дзень варта нам усім задумацца, што мы зрабілі добрага, патрэбнага, патрыятычнага для дабра нашае шматпакутнае Бацькаўшчыны...*

## ФЕДЭРАЦЫЙНАЯ РАДА БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ У АЎСТРАЛІІ

шчыра вітае Ўсіх Беларусаў з 76-мі ўгодкамі 25-га Сакавіка...
У вітаньні гаворыцца: "Ушаноўваючы 76-я ўгодкі 25-га Сакавіка мы верым, а ў Бога надзея, што Беларускі народ прайшоўшы крыжовы шлях зможа адрадзіць свае духовыя сілы для адбудовы свае дзяржаўнасьці".

Сакратар Федэральнае Рады,
Мікола ГУЗ.



***Рада міністраў БНР:*** *У цэнтры сядзіць А. Кахапоўскі (Калубовіч) Прэм'ер Міністр і Міністр замежных спраў. Роззнгайм, Нямеччына, люты - 1950 г.*

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст
1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546
USA.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor -- Nikolas Prusky
Выдавец і рэдактар -- М. Прускі

Артыкулы і дапісы могуць выяўляць пагляды, зь якімі рэдакцыя не згаджаецца.

*Крысьціян Наркевіч-Лейн (ЗША)*

БЕЛАРУСЬ

Я не чужы тут, хоць зямля – чужая.
Нашчадак тых, хто на жыцьцёвай хвалі
Ў далёкую Амэрыку прыплыў.
Ня маю тут сяброў, ня маю дому,
Шукаю тут адно – свае сьляды.
Абрысы слыннай Статуі Свабоды
Гравюраю застылі у вачах.

Іду па менскіх вуліцах. Здаецца
Вось-вось пачую сьпеў маёй бабулі.
Хачу дазнацца: хто я і адкуль?
Няўжо з далёкіх фінскіх берагоў,
Адкуль мой бацька, я ня мог убачыць
Зямлі, якой ніколі я ня ведаў?
Няўжо, калі ў Нямеччыне я быў,
Мусіў глядзець на ўсход і ўдзень і ўночы,
Каб уявіць сабе вось гэты горад?

Цяпер вярнуўся я ў свае улоньне,
Усхваляваны, ўражаны, ўвесь іншы.
Ідуць насустрач людзі, а я бачу,
Здаецца, вочы маёй любай маці;
А вось шырокі лоб, – ну, як у дзядзькі,
А вось пагляд, зусім як у бабулі...
А вось у дождж на Скарыны прасьпекце
Мільгнуў знаёмы твар... Дык гэта-ж я!

Няўжо голас крывіцкае крыві
Даўно ўжо не дае мне супакою
І апантана кліча вось сюды,
Да нашага сяла, ракі, узьлесься,
Да гэтага чароўнага пэйсажу
Зь яго меланхалічнаю аздобай,
З халоднымі вятрамі і дажджом,
З высокімі нябёсамі і сумам,
Які, здаецца, на вякі над вамі?..

Вы думаеце, гэта былі ўцёкі
Ад звыклага жыцьця? Ды не, няпраўда.
Я не баюся Страшнага Суда.
А хіба лёгка хутка ўсё забыць?
Дык што-ж рабіць мне : плакаць ці сьмяяцца?
Ды і навошта? Ўсім наканавана
Аднолькавае жудаснае пекла –
Прытулак душ, народжаных ў зьнявазе
І ў гэткай-жа зьнявазе і памерлых.
Але калі гняце адчай і голад,
Тады нічога не суцешыць душу,
Усё апраўдана – любая амаральнасьць
Ці парушэньне нейчых там правоў.

А ці даруе гэты грэх мне Бог?

Вы думаеце, я раней ня ведаў
Пра вашых самых блізкіх, самых родных,
Забітых рускімі пасьля ужо вайны?
Вы думаеце, я упершыню
Дазнаўся пра дзядоў і пра бацькоў,
Закатаваных ў лягеры ў Сібіры?
Вы думаеце, я упершыню
Даведаўся пра дзевяць тысяч вёсак,
Што былі спалены нацыстамі ў агні?

Ня трэба мне ніякіх фотаздымкаў,
Бо, жывучы ў Амэрыцы, я сам
Магу ўсё растлумачыць вам, давесьці.
А колькі роспачы было і сьлёз
Ў такія-ж цёмныя і ветраныя ночы,
Калі такі-ж бяссонны люты жах
Сьціскаў страшэнным болем маё сэрца...

А ці даруе гэты грэх мне Бог?

*З ангельскай мовы пераклаў*
*Ванкарэм Нікіфаровіч*

# Новы Вярхоўны Савет: усяго патроху?

***Васіль ШЫНКАРОЎ,***
***доктар гістарычных навук***

**Экспрэс-аналіз "Р"**

Не за гарамі новыя выбары ў Вярхоўны Савет. Якія ж могуць быць вынікі і што можа на іх паўплываць, калі зыходзіць з сённяшняга настрою людзей і існуючай раскладкі палітычных сіл? Матэрыялы сацыялагічных даследаванняў, вывучэнне сітуацыі на месцах даюць магчымасць зрабіць некаторыя прагнозы на гэты конт.

Верагодна, што ў перадвыбарнай барацьбе перш за ўсё сутыкнуцца дзве палярныя сілы: камуністы і БНФ. Безумоўна, вакол іх сфарміруюцца і асноўныя перадвыбарныя блокі. Улічваючы тое, што ў першых зараз значна вышэйшы рэйтынг папулярнасці, можна меркаваць, што яны заваююць і большасць месцаў у новым парламенце. Па данных Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, камуністаў зараз поўнасцю падтрымліваюць 11,1 працэнта апытаных, БНФ -- 6,4 працэнта. Да таго ж, калі прааналізаваць вынікі даследаванняў за апошнія тры гады, разрыў гэты паступова павялічваецца. Калі ў 1991 годзе самай аўтарытэтнай палітычнай сілай з'яўляўся БНФ, а сярод палітычных партый такой сілы не было, то ў другой палове 1992 года іх рэйтынгі ўраўняліся, а, пачынаючы з мінулага года, камуністы па папулярнасці выйшлі наперад.

У зніжэнні папулярнасці Народнага фронту няма нічога выпадковага. Гэта лёс усіх палітычных аб'яднанняў, якія ўзнесліся на хвалі антыкамунізму і антысаветызму, на незадаволенасці насельніцтва існуючым становішчам у эканоміцы і дзяржаўным будаўніцтве.

Але затым БНФ так і не змог унесці нічога істотнага і заслугоўваючага ўвагі. Прааналізуйце выступленні народнага дэпутата Зянона Пазняка і вы не знойдзеце ў іх нічога, што можна было б узяць на ўзбраенне ў практычнай дзейнасці. Альбо прачытайце прапанаваны апазіцыяй на трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета садаклад па пытанню аб стане эканомікі і шляхах выхаду з сацыяльна-эканамічнага крызісу і вы ўпэўніцеся ў поўнай адарванасці гэтага руху ад рэалій жыцця. Драматызм сітуацыі ў тым, што некаторыя лідэры БНФ не хочуць і не могуць заўважаць многіх сур'ёзных змен, якія адбываюцца ў практыцы і жыцці людзей. У той жа час нельга не ўлічваць тое, што БНФ мае добры вопыт перадвыбарнай барацьбы і пачаў яе ўжо даўно, прытым вядзе паслядоўна і мэтанакіравана.

Верагодна, ва ўмовах непрадказальнай абвальнасці эканомікі, зніжэння сацыяльнай абароненасці насельніцтва перавагу ў вачах выбаршчыкаў будзе мець блок партый традыцыяналісцкай накіраванасці, якія на першы план вылучаць мэты ўзмацнення ролі дзяржавы ў эканоміцы і сацыяльным жыцці, павышэння ўвагі да сацыяльных пытанняў, актыўнага рэгулявання цэн, даходаў розных сацыяльных груп, умацавання інтэрнацыянальных і міжгаспадарчых сувязей, стварэння моцнай сістэмы ўлады, у першую чаргу, выканаўчай, падначалення розных яе ўзроўняў па вертыкалі. У сучаснай сітуацыі падтрымка такіх праграм ўпэўнена схіліць вагі ў бок камуністаў, якія могуць выступіць адзіным блокам з аграрна-дэмакратычнай партыяй, Славянскім Саборам "Белая Русь" і некаторымі іншымі, атрымаць найбольшую падтрымку сярод пенсіянераў, сельскіх жыхароў, значнай часткі інтэлігенцыі. Магчыма, што пад гэтымі лозунгамі напярэдадні выбараў могуць з'явіцца і заявіць аб сабе некаторыя новыя партыі.

Асаблівасць сучаснага моманту таксама і ў тым, што зараз большасць выбаршчыкаў не падрыхтавана яшчэ да таго, каб аддаць свае галасы за партыі і блокі, якія робяць накірунак на раздзяржаўленне, прыватызацыю, рынячную эканоміку і нават суверэнітэт, беларускае нацыянальнае адраджэнне. І справа тут не ў тым, што гэтыя лозунгі непрывабныя альбо дрэнныя, а ў тым, што дзяржава і палітычныя партыі не змаглі прыдаць ім належнага зместу, які б у поўнай меры адпавядаў інтарэсам людзей.

Можна прагназіраваць таксама, што многія палітычныя партыі згубяць значную частку выбаршчыкаў па прычыне адсутнасці сістэмнасці, комплекснасці праграмных мэт і практычнай дзейнасці. На мой погляд, вылучэнне на першы план нацыянальных інтарэсаў і ігнараванне агульначалавечых праблем адхісне выбаршчыкаў ад нацыянальна-дэмакратычнай партыі, Беларускага народнага фронту, Славянскага Сабора "Белая Русь" і некаторых іншых. Можна спрачацца, добра гэта ці дрэнна, але ў сучасных умовах большасць выбаршчыкаў не прагаласуе і за тых, хто настойвае на аднамоўі. Гэта не мая думка, а рэальнасць, з якой нельга не лічыцца.

Несумненна, што агітацыя за прыярытэт інтарэсаў дзяржавы над інтарэсамі асобы адмоўна адаб'ецца на падтрымцы кандыдатаў ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Славянскага Сабора "Белая Русь". Вылучэнне карпаратыўных, класавых інтарэсаў будзе не на карысць кандыдатаў ад аб'яднанай аграрна-дэмакратычнай, сялянскай партый, Партыі камуністаў Беларусі і партыі народнай згоды.

У той жа час уперад могуць вырвацца некаторыя іншыя сілы. Многае залежыць ад таго, наколькі будзе ўключаны механізм уздзеяння на тую частку насельніцтва, якая зараз праяўляе абсалютную пасіўнасць і не ўдзельнічае ў актыўным грамадскім жыцці. Дастаткова сказаць, што больш паловы насельніцтва не выказвае даверу ні адной з партый. Дабаўлю яшчэ і тое, што 26 працэнтаў апытаных не маюць намеру наогул прыходзіць на выбарчыя ўчасткі.

Хутчэй за ўсё ні адна з партый не атрымае абсалютнай большасці ў новым парламенце. Гэта пацвярджаюць і вынікі сацыялагічных даследаванняў. Так, намер аддаць свае галасы партыі камуністаў выразілі толькі 4,1 працэнта, Беларускаму народнаму фронту - - 3,9 працэнта рэспандэнтаў. Вядома, што з такім прадстаўніцтвам нечага будзе весці размову, напрыклад, аб стварэнні аднапартыйнага ўрада або паспяховым вырашэнні іншых пытанняў.

Важным фактарам, які можа паўплываць на вынікі выбараў з'явіцца актыўнасць партый у выкарыстанні розных сродкаў уздзеяння на выбаршчыкаў. Час шумных кампаній, мітынгаў, дэманстрацый і пікетаў ужо прайшоў. Насельніцтва згубіла да іх інтарэс. Палітычная барацьба перамяшчаецца ў Вярхоўны Савет, іншыя прадстаўнічыя органы ўлады, на старонкі газет і журналаў, на радыё і тэлебачанне. Аб тым, як гэта важна ўлічваць у практычнай дзейнасці, яскрава сведчыць хаця б такі факт. Сёння аграпрамысловы комплекс рэспублікі знаходзіць сваё прадстаўленне ў асноўным у сялянскай і аграрна-дэмакратычнай партыях. Аб'ект у іх адзін, але сацыяльная база практычна розная. Першая ў асноўным апіраецца на нешматлікае фермерства, другая карыстаецца падтрымкай у калгасах, саўгасах, на прадпрыемствах перапрацоўчай прамысловасці, у аграрным саюзе і савеце калгасаў рэспублікі. Калі параўноўваць іх сацыяльную базу, то можна сказаць, што першая ў адрозненне ад другой працуе практычна на голым месцы. Але праяўляемая ёю актыўнасць дапамагае дабівацца рэйтынгу папулярнасці амаль у два разы вышэйшага, чым у аграрна-дэмакратычнай партыі.

Не трэба, на мой погляд, раней часу скідваць з вагаў і асабістыя якасці лідэраў. Больш таго, думаю, што ў некаторых выпадках за імі можа застацца рашаючае слова. Праўда, некаторы палітычны вакуум, які наглядаецца сёння, можа аказацца запоўненым у час перадвыбарнай кампаніі новымі палітычнымі плынямі і асобамі з кан'юнктурна-дэмагагічнымі лозунгамі і абяцаннямі. Застаецца таксама магчымасць прыходу да ўлады канстытуцыйным шляхам любога рэжыму — ад прагрэсіўна-дэмакратычнага да адкрыта рэакцыйнага.

Існуючая рэальнасць, патэнцыяльныя магчымасці, якія закладзены ў сённяшняй расстаноўцы палітычных сіл у рэспубліцы, павінны знайсці сваё рэальнае вырашэнне ў дэмакратычнай Канстытуцыі, Законе аб выбарах. Пры ўсёй складанасці і неадназначнасці сітуацыі ў рэспубліцы маюцца магчымасці для таго, каб сфарміраваць устойлівыя перадвыбарныя блокі з агульнымі або блізкімі мэтамі і стратэгічнымі ўстаноўкамі на станаўленне прававой дзяржавы і пабудову адпаведнага грамадства, фарміраванне неабходнай для гэтага палітычнай культуры ва ўмовах інтэграцыі і збліжэння асноўных палітычных імкненняў і прыярытэтаў.

***Нам стало известно***

*"Народная Газэта"*

# Визу в США можно получить в Минске

Посольство Соединенных Штатов Америки имеет удовольствие сообщить, что консульский отдел для выдачи всех видов неиммиграционных виз открывается 14 февраля 1994 года. Начиная с этого времени, посольство будет принимать заявки на неиммиграционные визы от всех жителей Беларуси. С введением данного обслуживания, жителям Беларуси не придется больше ездить в Москву, чтобы подать заявку на неиммиграционную визу в США. Жители Беларуси, желающие подать заявку на иммиграцию в США или на получение статуса беженца, должны будут по-прежнему обращаться в посольство в Москве.

Посольство США в Минске будет принимать заявки на визы по понедельникам, средам и четвергам с 9.00 до 12.00. Посетителей, прибывших в посольство после 12.00, будут просить прийти снова в очередной день выдачи виз. Семьи и делегации, которые путешествуют вместе, могут послать одного представителя, чтобы подать прошение на визы. Визовые анкеты будут выдаваться посольством бесплатно. Каждый проситель должен принести 2 фотографии (такого же размера, как в обычном паспорте), паспорт, приглашение или любые подкрепляющие документы. В соответствии с законодательством США во время подачи заявки на визу просители должны представить сотруднику, возглавляющему консульский отдел, доказательства, удостоверяющие наличие у них достаточных связей с Республикой Беларусь и гарантирующие их возвращение из США в Республику Беларусь. Таким образом, документы, указывающие на деловые или семейные связи в Беларуси, на обладание собственностью, могут способствовать подкреплению заявки на визу. Официально не существует единого документа, который бы гарантировал просителю визу, а также не имеется перечня требуемых для получения визы документов.

В большинстве случаев просители, которые получили разрешение на визы, будут получать их в следующий рабочий день. Тем не менее обработка некоторых виз может занять до 15 дней, поэтому мы рекомендуем просителям подавать заявки на визы по крайней мере за две недели до предполагаемой поездки. Наличие достаточного времени для подачи заявки на визу перед поездкой в США является делом личной ответственности каждого просителя.

Посольство США хотело бы подчеркнуть, что в настоящее время все визы для граждан Беларуси бесплатны. Ни один из просителей не должен платить за ожидание в очереди в посольстве, за получение анкеты или за помощь при заполнении анкеты. К тому же просители должны знать, что никто, включая сотрудников посольства США, не может гарантировать получение визы. Любая реклама от частных лиц или организаций, заявляющих, что они могут гарантировать получение виз в США, является мошенничеством. Также лица, предоставляющие в посольство фальшивые документы или ложную информацию, могут быть временно отстранены от получения визы в США.

Посольство США расположено в городе Минске по адресу: ул.Старовиленская, 46. Вопросы, касающиеся виз, следует направлять в консульский отдел (телефон 31-50-00).

# Нацыянальная канферэнцыя аб праблемах беларускай навуковай тэрміналогіі адбудзецца ў траўні

**Арганізацыйны камітэт паведамляе, што з ініцыятывы Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны пры ўдзеле Міністэрства інфармацыі і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Акадэміі навук Беларусі, Беларускай энцыклапедыі, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны 4—6 траўня 1994 года ў г. Менску адбудзецца Першая нацыянальная канферэнцыя «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі». На ёй будуць разгледжаны пытанні распрацоўкі беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, укладання рознагаліновых слоўнікаў, практычны досвед айчыннай тэрмінатворчай дзейнасці.**

**Аргкамітэт просіць паведаміць пра намер удзельнічаць у канферэнцыі, падаць назоў даклада (паведамлення) і кароткую анатацыю зместу аб'ёмам да 200 знакаў. Анатацыі мяркуецца змясціць у праграме канферэнцыі, а даклады і разгорнутыя паведамленні — надрукаваць у спецыяльным выніковым зборніку.**

**Просім удзельнікаў канферэнцыі паведаміць таксама пра сябе: імя і прозвішча, месца працы і пасада, навуковая ступень, навуковае званне, службовы і хатні адрасы, тэлефоны, патрэба ў гатэлі.**

**Заяўкі на ўдзел дасылайце да 1 сакавіка 1994 г. на адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13, ТБМ імя Ф. Скарыны, аргкамітэт тэрміналагічнай канферэнцыі.**

**Даведачныя тэлефоны: (0-172) 33-25-11, 39-50-61, 39-44-77.**

## Ці памяняюць Мюнхэн на Прагу?

Старшыня аб'яднанага кіраўніцтва радыёстанцыяў "Свабода" і "Вольная Эўропа" У. Марш падаў у адстаўку ў знак пратэсту супраць магчымага пераводу гэтых радыёстанцыяў з Мюнхэна ў Прагу. Марш заявіў, што непазьбежныя расходы з пераездам яшчэ больш скароцяць бюджэт радыёстанцыяў. Да таго большасьць супрацоўнікаў з паўтаратысячнага пэрсаналу зьяўляюцца выхадцамі з усходняй Эўропы і могуць не захацець памяняць Мюнхэн на Прагу.

Сп. Марш у беларускай дыяспары пашанай не карыстаўся, і можа добра сталася, што ён пайшоў у адстаўку.

Паважаны Чытач! Калі ласка, дай пасільную ахвяру на "Беларускі Дайджэст"...



меркаваньні

НАША СЛОВА

# На дзейнасьць СБМ настаў час паглядзець без бальшавіцкай зашоранасьці

*Наш народ нямала пацярпеў ад рэпрэсій былога бальшавіцкага рэжыму. Асаблівай бесчалавечнасцю вылучаюцца рэпрэсіі супраць многіх навучэнцаў сярэдніх школ і гімназій, а таксама сяброў Саюза беларускай моладзі (СБМ)— маладзёжнай нацыянальна-патрыятычнай арганізацыі, якая пэўны час існавала на ўсёй акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі.*

**Але, як сведчаць факты, і сённяшняе кіраўніцтва рэспублікі, якое складаецца пераважна з былых партыйных функцыянераў, нават у новай палітычнай сітуацыі ставіцца да гэтай арганізацыі, да былых сяброў яе, як да здраднікаў. Рашэннем Старшыні Савета Міністраў Вячаслава Кебіча мінулым летам была забаронена сустрэча сяброў Саюза беларускай моладзі, якую ладзіла Згуртаванне беларускіх студэнтаў напярэдадні Першага з'езда беларусаў свету. Матывацыя ранейшая: СБМ — паслугач гітлераўскіх захопнікаў. Не спыняецца шалёная кампанія па дыскрэдытацыі гэтай арганізацыі і яе былых сяброў пракамуністычнымі сродкамі інфармацыі. У газеце «Политика. Позиция. Прогноз» (№ 10 за снежань 1993 г.) надрукаваны адкрыты ліст менскага гарадскога клуба гістарычных ведаў Вярхоўнаму Савету і Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, у якім — абразлівыя нападкі на «Народную газету», «Літаратуру і мастацтва», «Звязду», а таксама «Беларускі гістарычны часопіс». Апошні нібыта скажае гістарычную праўду з мэтай ачарніць савецкую рэчаіснасць. Наконт Саюза беларускай моладзі там гаварылася наступнае: «Клуб исторических знаний с удовлетворением встретил опубликованную в печати информацию, что Совет Министров РБ издал распоряжение о недопустимости каких-либо мероприятий, связанных с так называемым юбилеем СБМ. Это означает, что правительство республики защитило советских граждан от публичного выступления апологетов национал-фашизма».**

**Ад гэтых радкоў вее дрымучай бальшавіцкай дэмагогіяй, крайняй рэакцыйнасцю мыслення іх аўтара. Добра, што ў мінулым годзе выйшла кніжка прафесара Юры Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дзе аўтар на падставе шырокіх архіўных матэрыялаў доказна сцвярджае: СБМ быў нацыянальнай беларускай патрыятычнай арганізацыяй моладзі. Аб яе папулярнасці сярод моладзі гаворыць той факт, што толькі за адзін год, з 1943 па 1944, у яе ўлілося каля 100 тысяч беларускіх юнакоў і дзяўчат. Падкрэслім, што гэта рабілася выключна добраахвотна. Ці можа нармальны чалавечы розум уявіць, каб за такі кароткі тэрмін такая значная колькасць маладых беларусаў раптоўна стала прыхільнікамі фашысцкай ідэалогіі?!**

**СБМ ахопліваў у асноўным вучнёўскую моладзь ва ўзросце 15—17 гадоў, якая пераважна займалася культурна-асветніцкай дзейнасцю. Вядома, форма сяброў арганізацыі, эмблемы з выявай Пагоні, бел-чырвона-белы сцяг у некаторай ступені вабілі моладзь. Але ж галоўнай прычынай бурнага росту СБМ стала ідэя нацыянальнага Адраджэння і незалежнасці Беларусі. Такую арганізацыю абсалютна нельга было ўявіць ні пры панаванні Польшчы ў Заходняй Беларусі, ні тым больш пры Саветах. Нават нямецкая адміністрацыя насцярожылася, пабачыўшы, з якім энтузіязмам праводзіліся мерапрыемствы СБМ. Відаць, векавая прага да незалежнасці нашага прыгнечанага народа на імгненне выявілася праз настроі менавіта маладога тагачаснага пакалення, нягледзячы на ваеннае ліхалецце, на безнадзейнасць палітычнага становішча.**

**Дарагой цаной давялося заплаціць пазней за гэтае юнацкае памкненне да беларускасці. Многіх юнакоў саслалі ў лагеры, астатніх зрабілі людзьмі другога гатунку, пазбавіўшы істотных грамадзянскіх правоў. Напрыклад, былым сябрам СБМ было цяжка атрымаць вышэйшую адукацыю. Ведаю гэта па сабе, бо з'яўляўся сябрам СБМ, калі з 1942 па 1944 гг. вучыўся ў Маладзечанскай сярэдняй гандлёва-адміністрацыйнай школе. Менавіта за гэта мне двойчы (адзін раз у Вільні, другі — у Менску) было адмоўлена ў атрыманні вышэйшай мастацкай адукацыі.**

**Нарэшце наша краіна апынулася ў новай палітычнай сітуацыі. Герб Пагоня, бел-чырвона-белы сцяг сталі дзяржаўнай сімволікай. Здавалася б, што і на дзейнасць СБМ настаў час паглядзець без бальшавіцкай зашоранасці. Але нашы ўрадаўцы, якія ў сваёй большасці складаюцца з былых партфункцыянераў, не спяшаюцца развітвацца з ідэалогіяй колішняга рэжыму. На словах яны выступаюць за гуманізм і дэмакратыю, а на справах прымаюць зусім іншыя рашэнні.**

**Сёння дакладна высветлена, што СБМ не ўдзельнічаў у ваенных акцыях. Калі, напрыклад, паспрабаваць параўнаць СБМ з камсамолам, то да апошняга павінна быць нашмат больш прэтэнзій. Мяркуйце самі. На рахунку гэтай маладзёжнай арганізацыі (не ў прыклад СБМ) мноства ўчынкаў, якія нанеслі велізарную шкоду нацыянальным інтарэсам нашага народа. Гэта і ўдзел у так званай класавай барацьбе падчас калектывізацыі, і дэпартацыя беларускіх сем'яў у Сібір і Казахстан, і змаганне з рэлігіяй, у выніку чаго загінула вялікая колькасць помнікаў культуры і архітэктуры, і спрыянне русіфікацыі нашай моладзі, і зусім яшчэ нядаўнія выступленні камсамола супраць дэмакратычных змен. Менавіта камсамол быў палітычным рэзервам партыі, якая сябе цалкам скампраметавала. Да слова, якраз камсамольцамі папаўняліся спецыяльныя аддзелы карных органаў НКУС, на рахунку якіх безліч злачынстваў і беззаконня. Гэта з камсамольскім білетам у кішэнях і чырвонымі зоркамі на шапках расстрэльвалі невінаватых людзей у Курапатах і турэмных засценках. Між тым, і сёння камсамол працягвае дзейнічаць легальна, за мінулае яго пакуль ніхто не збіраецца прыцягваць да адказнасці. Чаму ж да Саюза беларускай моладзі, віна якога нікім не даказана, стаўленне ранейшае — бальшавіцкае?! Дзе ж праўда?**

**Я лічу, што вядзецца планамерная дыскрэдытацыя не так Саюза беларускай моладзі, як самой ідэі незалежнасці беларускай нацыі. З публікацый у сённяшніх пракамуністычных выданнях бачна, што сучасным прыхільнікам беларускасці і суверэнітэту таксама навешваюцца ярлыкі нацыянал-экстрэмістаў і нават апалагетаў фашызму.**

**Пад кіраўніцтвам урада вядзецца планамерная паслядоўная разбуральная дзейнасць не толькі ў эканоміцы. Мэтанакіравана ідзе барацьба супраць усяго, што замінае аб'яднанню з Расіяй. Таму розныя пракамуністычныя партыі і клубы разам з рэакцыйнай большасцю ў парламенце беспакарана бэсцяць нашу гістарычную дзяржаўную сімволіку, дамагаюцца ўвядзення «двуязычия», скасавання Віскулёўскіх пагадненняў і нават аднаўлення СССР.**

**Над беларускім народам і кволым яго суверэнітэтам навісла вялікая пагроза. І толькі рашучыя дзеянні свядомай патрыятычнай часткі нашага грамадства могуць супрацьстаяць ворагам беларушчыны.**

**У свой час «Настаўніцкая газета» (№ 10, чэрвень 1992 г.) апублікавала матэрыял супрацоўніцы газеты «Наша слова» Г. Хаткевіч пад назвай «Яны думалі пра незалежную Беларусь». Там ішла гаворка пра патрыятычнае падполле сярод беларускай вучнёўскай моладзі ўжо ў савецкі перыяд, у 1946—48 гг. А яшчэ ў «Нашым слове» (№№ 16, 17, 18 за мінулы год) апублікаваны допісы саміх удзельнікаў гэтага руху: Васіля Супруна, Аляксандры Умпіровіч (Фурс), Антона Фурса і Германа Кірылава з Полацка, у якіх больш дэталёва паведамлялася аб нелегальных суполках гэтага руху ў розных гарадах і мястэчках Беларусі. Паведамлялася аб іх разгроме, арыштах і жорсткіх прысудах. Юнакоў і дзяўчат засудзілі на вялікія тэрміны зняволення толькі за тое, што яны імкнуліся супрацiўляцца русіфікацыі, бараніць сваю мову і культуру. Сённяшняе грамадства пра гэта амаль нічога не ведае. Я таксама не сустракаў раней звестак пра Саюз беларускіх патрыётаў, у які ўваходзілі вучні Пастаўскага і Глыбоцкага педвучылішчаў. Але ведаю, што рэпрэсіі супраць сяброў СБМ пачаліся менавіта ў той час, калі ўзнялася кампанія па падаўленні беларускага адраджэнскага руху. Ведаю прыклады, калі сябры СБМ у 1944, 1945 гг. былі спярша прызваны ў Савецкую Армію, ваявалі, атрымоўвалі баявыя ўзнагароды, а ўжо потым, пасля перамогі, іх арыштоўвалі, часам прама ў войску, і судзілі, прыпісваючы здраду беларускаму народу, як і ўдзельнікам пасляваеннага патрыятычнага падполля.**

**Мы лічымся і сёння ворагамі свайго народа. Неабходна разарваць гэты пачварны ланцуг несправядлівасці. Было б вельмі добра, каб рэдакцыя «Нашага слова» дапамагла мне наладзіць сувязі з сябрамі былога Саюза беларускіх патрыётаў, з іншымі ўдзельнікамі падполля і тымі, хто належаў да Саюза беларускай моладзі. Не губляю надзеі стварыць асацыяцыю былых ахвяр беспадстаўна рэпрэсіраваных маладых патрыётаў. Прашу былых сяброў згаданых арганізацый пісьмова паведаміць пра сябе ў рэдакцыю «Нашага слова».**

Кастусь ХАРАШЭВІЧ,
член Саюза
мастакоў Беларусі,
пенсіянер.
г. Маладзечна.

## СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ МАЕ НАМЕР ВЯРНУЦЦА Ў ВЯЛІКУЮ ПАЛІТЫКУ

Такую думку выказала «Інтэрфаксу» пажадаўшая застацца не названай крыніца ў бліжэйшым акружэнні Шушкевіча.

Яна адзначыла, што экс-спікер праводзіць актыўную работу ў працоўных калектывах розных рэгіёнаў Беларусі. Два дні назад Шушкевіч сустрэўся з кіраўнікамі прадпрыемстваў і арганізацый Фрунзенскага раёна горада Мінска. Менавіта ў гэтым раёне Шушкевіч балаціраваўся і быў выбраны народным дэпутатам Савецкага Саюза і Беларусі.

У чацвер Шушкевіч пабываў у Гомелі па запрашэнню групы дэпутатаў мясцовага гарсавета і шэрагу палітычных партый рэспублікі. Экс-спікер сустрэўся з мясцовымі народнымі выбраннікамі, а таксама з працоўным калектывам аднаго з гігантаў беларускай індустрыі — аб'яднання «Гомсельмаш», прамысловая вытворчасць на якім цяпер спынена.

Паводле даных крыніцы, былога кіраўніка Беларусі просяць аб сустрэчы працоўныя калектывы шэрагу прадпрыемстваў Віцебска, Наваполацка, Барысава і іншых гарадоў рэспублікі.

«Адзінае, што можа вымусіць Шушкевіча перанесці паездкі ў гэтыя гарады на больш позні тэрмін — аднаўленне пленарных пасяджэнняў сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, у рабоце якога С. Шушкевіч плануе прыняць самы актыўны ўдзел як народны дэпутат. Асабліва ў тыя дні сесіі, калі будзе абмяркоўвацца пытанне аб правядзенні датэрміновых выбараў у вышэйшы заканадаўчы орган краіны», — паведаміла крыніца.

*Мікалай СТАТКЕВІЧ:*

"Народная Газэта"

# "Тых, хто любіць Радзіму, забараніць нельга!"

Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ

Становішча на Беларусі пагаршаецца з кожным днём. Але дзе выхад з крызісу? Кіраўніцтва рэспублікі бачыць выйсце толькі ў адным — у аб'яднанні з Расіяй. Таму і робіцца ўсё магчымае, каб паскорыць перамовы, таму і гучаць абяцанні народу Беларусі: як толькі аб'яднаем грашовыя сістэмы дзвюх краін, адразу стане жыць лепш.

Зусім іншая пазіцыя ў Беларускага народнага фронту і тых партый і рухаў, якія бачаць будучае Беларусі, як незалежнай дзяржавы. Мы павінны спадзявацца ў першую чаргу на свае сілы і самі выбірацца з крызісу — вось галоўны матыў іх дзеянняў. Таму і адносіны да прынятага рэспубліканскім стачкамам рашэння аб правядзенні бестэрміновай палітычнай стачкі вельмі неаднолькавыя. Прэс-сакратар Старшыні Савета Міністраў Беларусі назваў такія дзеянні антыканстытуцыйнымі, антызаконнымі, накіраванымі толькі на узурпацыю дзяржаўнай улады. Беларускі народны фронт, Партыя народнай згоды, Сацыял-дэмакратычная грамада і іншыя партыі падтрымалі правядзенне палітычнай стачкі.

Але найбольшая дыскусія ўзнікла вакол Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Савет рэспубліканскага стачачнага камітэта звярнуўся да гэтай патрыятычнай арганізацыі з просьбай арганізаваць ахову правапарадку пры правядзенні палітычнай стачкі і мітынгаў. У той жа час Саюз афіцэраў Беларусі, Міністэрства абароны і нават 64 народныя дэпутаты Беларусі накіравалі заявы ў Міністэрства юстыцыі з патрабаваннем забараніць БЗВ. Чаму менавіта Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, а не БНФ ці якая іншая палітычная партыя ў гэты складаны час аказалася ў цэнтры крытыкі пракамуністычных сіл?

Мы звярнуліся з гэтым пытаннем да старшыні Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікалая Статкевіча:

— У апошні час мы правялі некалькі мерапрыемстваў, якія паказалі нашу рэальную сілу. Скажам, святкаванне ў Віцебску ўгодкаў перамогі беларускага войска пад Улай. Мы ведалі, што магчымы правакацыі, так яно і атрымалася. Калі мы прыехалі да тэатра імя Я.Коласа, то там ужо стаялі агрэсіўна настроеныя камуністы. Мы папрасілі прадстаўнікоў міліцыі расчысціць месца для правядзення мітынгу. Нам адказалі, што ўмешвацца міліцыя не будзе. Тады мы сваімі сіламі блакіравалі натоўп, знялі ўсе іх плакаты, і так атрымалася, што камуністы аказаліся ўдзельнікамі нашага мітынгу. Я ім нават у канцы падзякаваў за гэта. А яны былі проста шакіраваны ўмелымі дзеяннямі нашай аховы. Ніхто не пацярпеў, і мы дасягнулі сваёй мэты.

**— Але па радыё прагучала заява Беларускага народнага руху, у якой сцвярджаецца, што Беларускае згуртаванне вайскоўцаў можа ўвайсці ў гэтую арганізацыю...**

— Мы не ведаем такой арганізацыі, як Народны рух Беларусі. Мы ведаем, што ёсць камуністы — адны і тыя ж людзі, якія выступаюць пад назвай ДСПС, Партыя камуністаў Беларусі, Фонд сацыяльнай абароны вайскоўцаў, ён жа Саюз афіцэраў. Акрамя гэтага, ёсць некалькі шыльдаў, за якімі ніхто не стаіць, накшталт аб'яднання "Зніч", баталістаў-марыністаў і г.д. Ёсць яшчэ партыя Славянскі сабор "Белая Русь", у складзе якой некалькі дзесяткаў актывістаў. На чале ўсяго гэтага стаіць асоба, якая, мы лічым, сябе маральна скампраметавала, — гэта падпалкоўнік запасу Гайдукевіч. Я ўсюды кажу (і спадзяюся, што ён нарэшце запросіць мяне ў суд да адказу) пра тую махінацыю, якая адбылася два гады таму з грашовымі сродкамі, выдзеленымі для будаўніцтва жылля для вайскоўцаў. Тады фонд сацыяльнай абароны вайскоўцаў атрымаў больш за 7 мільёнаў рублёў. Але значная частка гэтых грошай была скарыстана не на будаўніцтва жылля, а на выдачу беспрацэнтных пазык камерцыйным фірмам, у якіх чамусьці кіраўнікамі і ўладальнікамі аказаліся сваякі кіраўніцтва фонду. Напрыклад, фірма "Біямед", саўладальнікам якой з'яўляецца жонка спадара Гайдукевіча, атрымала 1,5 мільёна рублёў беспрацэнтнай пазыкі. У той час гэта кошт 5-павярховага дома.

Калі гэта гісторыя выйшла на паверхню і ёю зацікавіліся фінансавыя органы, то спадар Гайдукевіч заявіў, што грошы будуць вернуты. Але зараз на гэтыя грошы ў тым пяціпавярховым будынку можна пабудаваць толькі адзін санвузел.

Безумоўна, з юрыдычнага боку тут , можа, усё нармальна — узялі 1,5 мільёна і вярнулі столькі ж. Але ёсць маральны бок справы. Чалавек, афіцэр узяў грошы, каб забяспечыць жыллём іншых афіцэраў, але выкарыстаў іх на карысць камерцыйных фірм.

А зараз Беларускі народны рух заяўляе, што ён будзе змагацца з карупцыяй! Я адказваю за свае словы, маю ўсе дакументы і заўсёды кажу камуністам: калі вы сумленныя людзі, то пакарайце свайго старшыню або судзіцеся са мною! А то яны прымаюць заявы, што падтрымліваюць спадара Лукашэнку ў барацьбе са злачыннасцю, а самі не могуць нічога зрабіць са сваім кіраўніком. На мой погляд, камуністы, якія ведаюць, што іх ідэі народ не падтрымлівае, проста вымушаны хавацца за шыльду Народнага руху Беларусі.

**— Мікалай Віктаравіч, многіх вельмі цікавіць, якім чынам БЗВ будзе прымаць удзел у палітычным страйку?**

— Так, рэспубліканскі страйкавы камітэт звярнуўся да нас з просьбай забяспечыць ахову гэтай акцыі. Безумоўна, сябры нашай арганізацыі адгукнуцца на просьбу і зробяць усё магчымае, каб не было ніякіх правакацый, сутычак, гвалту. Але афіцыйнага рашэння Беларускае згуртаванне вайскоўцаў прымаць не будзе. Мы цудоўна памятаем пра ўсе спробы юрыдычна забараніць нашу арганізацыю. Але я павінен сказаць: як толькі БЗВ будзе забаронена, у той жа дзень узнікне новая арганізацыя з іншай назвай, але з такімі ж мэтамі.

Тых, хто любіць сваю Радзіму і хоча змагацца за яе свабоду, забараніць нельга. Гэта толькі 17-мільённую кампартыю можна было забараніць, і яна ў адзін дзень перастала існаваць, і ніхто з камуністаў фактычна не пратэставаў.

А ў нас Беларусь адна — і мы яе так проста не аддадзім.

**P.S.** Калі матэрыял быў падрыхтаваны да друку, стала вядома, што 9 лютага бягучага года Міністэрства юстыцыі падало ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь іскавую заяву аб ліквідацыі Беларускага згуртавання вайскоўцаў. 9(!) лютага БЗВ атрымала позву ў суд (для прыкладу — разгляд справы аб незаконным звальненні старшыні БЗВ М.Статкевіча пачаўся праз паўгода пасля падачы заявы).

Чаму такая імклівасць? Гэта звязана ў першую чаргу з тым, што сябры БЗВ адгукнуліся на просьбу страйкамаў дапамагчы падтрымліваць грамадскі парадак падчас правядзення палітычнай стачкі. Фармальнай падставай паслужыла нібыта неадпаведнасць статута БЗВ дзейнаму заканадаўству. Але кіраўніцтва БЗВ паведамляе, што нават магчымая забарона арганізацыі не зашкодзіць сябрам БЗВ прыняць удзел у падтрыманні парадку падчас страйку.

*Мар'ян ВІЖ* **Настаўніцкая газета**

# *"ВЫВУЧАЦЬ І ПЕРААСЭНСОЎВАЦЬ"*

**Мар'ян Віж — празаік, публіцыст, гісторык і краязнаўца. Нарадзіўся ў Мінску ў 1949 годзе. Скончыў сярэднюю школу. Следам — гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Як афіцэр запасу адразу быў прызваны на вайсковую службу. Служыў у Брэсцкім гарнізоне. Старшы лейтэнант. Пасля працаваў у навучальных і культурна-асветніцкіх установах беларускай сталіцы.**

**Грунтоўна цікавіцца даўнінай Бацькаўшчыны самастойна пачаў два дзесяцігоддзі таму назад. Тады ж у беларускай перыёдыцы з'явіліся першыя яго публікацыі. У 1989 годзе выдаў кніжку гістарычна-краязнаўчых нарысаў "Чары даўніны", прысвечаную мінуўшчыне чатырох беларускіх мястэчак — Ігумена (Чэрвеня) Лагойска, Ракава, Івянца. Выданне пабачыла свет у бібліятэчцы "Голаса Радзімы". А яшчэ праз два гады ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" асобнай кнігай выйшла гістарычная аповесць Мар'яна Віжа "Лабірынт". Твор прысвечаны падзеям паўстання 1863 года. Кніга даволі хутка знікла з кнігарняў. Не залежваецца "Лабірынт" і ў бібліятэках. Пяру М.Віжа належыць таксама некалькі соцень гістарычных краязнаўчых і літаратуразнаўчых публікацый у перыёдыцы, у шэрагу навуковых выданняў нашай краіны.**

— Мар'ян Міхайлавіч, сёння, відаць, з іншага пытання нельга і гаворку пачынаць... Дык вось — ці заўжды было так, што на гісторыю пазіралі праз прызму бягучай палітыкі?

— Улады ніколі не пакідалі без увагі яе вялікасць Гісторыю. Заўжды імкнуліся прыстасаваць яе да ўласных патрэб і на сваю, вядома, карысць. Зрэшты, гэта натуральна. Але ўся справа ў тым, у якіх маштабах, якімі тэмпамі гісторыя перараблялася. Пры царызме, напрыклад, у Расійскай імперыі гэта рабілася даволі далікатна і асцярожна, хоць паслядоўна і няўхільна. А вось пры бальшавіках распачаўся несупынны гвалт і сапраўдны здзек над гісторыяй, якая ў адзін момант была абвешчана "праклятай мінуўшчынай". Дарэчы, заклік да вайны з гісторыяй ёсць у партыйным гімне. Успомніце: "Мы весь, мы старый мир разрушим до основанья...!" Між тым, менавіта ў "старом мире" якраз і прысутнічала святое стаўленне да роднай мінуўшчыны. Яшчэ лаціняне паўтаралі: "Гісторыя — настаўніца жыцця".

— Агульнавядома, што беларускі народ вызначаецца памяркоўнасцю, талерантнасцю... А вось ці характарызуецца талерантнасцю, на ваш погляд, Дзень угодкаў бітвы пад Оршай?

— Кожныя ўгодкі Аршанскай бітвы 1514 года даўно павінны стаць нацыянальным святам беларускай вайсковай славы, Днём беларускага войска, калі хочаце. Не варта толькі гэтую падзею выкарыстоўваць для распальвання антырускіх настрояў, бо як бы Расія да нас ні ставілася, але яна вялікая дзяржава і наш магутны бліжэйшы сусед. Ад гэтага нікуды не дзенешся. Наўрад ці сёння хто з сур'ёзных палітыкаў Беларусі схільны правакаваць нацыянальныя канфлікты паміж нашымі славянскімі народамі.

— Часта беларускі народ абвінавачваюць у нізкай гістарычнай свядомасці. Што вы думаеце на гэты конт?

— Нізкая нацыянальная, а гэта, значыць, і гістарычная свядомасць беларусаў зараз агульнавядомая. Гэта не віна людзей, а іх бяда. Беларусаў стагоддзямі адвучвалі адчуваць сябе беларусамі. І дасягнулі ў гэтым немалых поспехаў. Але пачаўся працэс Адраджэння. Пераважная большасць сённяшніх падлеткаў ужо ведае, што яны — беларусы, што жывуць у суверэннай, агульнапрызнанай еўрапейскай дзяржаве, што Бацькаўшчына іх (а яна, як маці — адна) — Беларусь, а не, як пелі ўчора: "Наш адрес — не дом и не улица. Наш адрес Советский Союз".

— Відаць, пэўная частка віны за такое незайздроснае становішча ляжыць і на нашай мастацкай літаратуры?

— Несумненна. Але не толькі на літаратуры. У першую чаргу — на прафесійных гісторыках, якія на справе аказаліся зусім не вучонымі, а банальнымі прыстасаванцамі. Мяркуйце самі: прыкладна дзевяць дзесятых сённяшніх дактароў і кандыдатаў гістарычных навук у свой час абаранілі свае дысертацыі на матэрыяле, дзе навукай нават не пахне. Папулярнымі яшчэ ўчора былі такія, напрыклад, тэмы "гістарычных" даследаванняў: "Роля камсамола БССР у павышэнні працоўнай актыўнасці рабочых (ўсё роўна якой) пяцігодкі", "Камсамол Беларусі — баявы атрад КПБ" і г.д. Навуковых ступеняў і званняў у такіх псеўдавучоных дагэтуль ніхто не адбіраў. Яны і зараз стаяць за кафедрамі ВНУ і, вядома, як могуць супраціўляюцца Адраджэнню.

— Гаворачы пра матэрыі больш высокія, мы забыліся на творчую асобу Мар'яна Віжа — празаіка. Над чым вы зараз працуеце? Што з вышых твораў падрыхтавана ці амаль падрыхтавана да выдання?

— У выдавецтве "Полымя" вось-вось павінна выйсці кніга З. і С.Шыбекаў "Минск. Страницы жизни дореволюционного города", якую я пераклаў на родную мову. Гэта кніга — лепшае, што напісана пра мінулае нашай сталіцы, майго роднага горада, які вельмі і вельмі люблю. Да здачы ў друк рыхтую кніжку "Адрас — мястэчка...", прысвечаную гісторыі некаторых мястэчак Міншчыны. Пішу кароткія апавяданні з сучаснага жыцця, не забываючыся на "сваю" родную гістарычную тэму. Тут запланаваны раман. Але гэта работа не на адзін год. Пастаянна адчуваю недахоп часу, бо жыццё ёсць жыццё...

— У вас за плячыма багаты вопыт карпення ў архівах. Знойдзена і адкрыта шмат арыгінальных, забытых фактаў. Але ці так ужо гэта — дакументальнасць, фактаграфічнасць — неабходна мастаку слова, каб данесці тую ці іншую думку?

— Голая думка, ды яшчэ пададзеная ў лоб, ніколі, відаць. не сустрэне прыхільнікаў і паслядоўнікаў. Яна не захопіць нікога, хоць, магчыма, сама нарадзілася вельмі няпроста, ці нават пакутліва. А без факта ўвогуле няма, не можа быць сапраўднай Гісторыі.

Якраз невядомыя, на першы погляд нязначныя гістарычныя факты, дэталі надаюць ужо вядомым усім нам падзеям той непаўторны флёр і адметны шарм, які дазваляе ўваскрашаць забытае з небыцця. На жаль, гэта мала каму з пісьменнікаў удаецца. І гэта ў той час, калі гісторыя Беларусі надзвычай багатая самымі разнастайнымі падзеямі і фактамі. Прыдумваць тут, лічу, нічога асабліва не варта. А вось нястомна вывучаць, дадумваць, пераасэнсоўваць — трэба.

— Мар'ян Міхайлавіч, ваша асабістае меркаванне адносна "белых плямаў" у гістарычнай тэме беларускай мастацкай літаратуры...

— Не будзе, напэўна, перабольшваннем сказаць, што гістарычная тэма ў беларускай літаратуры — амаль цаліна, ледзь не суцэльная "белая пляма". На адной руцэ хопіць пальцаў, каб пералічыць тых беларускіх пісьменнікаў, у каго на згаданай дзялянцы маюцца значныя поспехі. І станоўчых зрухаў тут ні сёння, ні заўтра чакаць не выпадае, бо гэта тэма (апроч высокага літаратурнага майстэрства) вымагае ад аўтараў поўнай аддачы творчых сіл, працы, як кажуць, да сёмага поту, не абяцаючы ні хуткага прызнання, ні нават падтрымкі ці разумення. Нічога не зробіш: калі людзі ў сваёй большасці страцілі гістарычную памяць, то адрадзіць яе вельмі і вельмі складана. Тым не менш гэта рабіць неабходна...

Гутарыў
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

Са старадаўніх беларускіх родаў паходзяць такія славутасці, як матэматык Соф'я Кавалеўская (Корвін-Крукоўская), падарожнік Мікалай Пржавальскі (Перавальскі), паэт Гіём Апалінэр (Кастравіцкі), кампазітар Дзмітрый Шастаковіч, авіяканструктар Павел Сухі.

А колькі выдатных дзеячаў, якія праславіліся ў свеце, нарадзіла беларуская зямля! Гэта Казімір Семяновіч — вынаходнік шматступеньчатай ракеты, Якуб Наркевіч-Ёдка — вынаходца электраграфіі і бяздротавай перадачы электрычных сігналаў, Герман Мінкоўскі — выдатны нямецкі матэматык і фізік, Леў Арцімовіч — вучоны ў галіне кіравання тэрмаядзернага сінтэзу, Аляксандр Чыжэўскі — заснавальнік геліябіялогіі і шэраг іншых.

## Акоўцамі займаецца камісія

**Ці атрымаюць статус вэтэранаў вайны грамадзяне Беларусі, якія належалі да Арміі Краёвай? Гэтае пытаньне павінна была вырашыць яшчэ да канца мінулага году спэцыяльная камісія, створаная беларускім урадам.**

Але, як адзначыў прадстаўнік гэтай камісіі дырэктар Нацыянальнага архіву Я.Бараноўскі, сябры камісіі не прыйшлі да поўнае згоды.

Польскі бок, па словах сп.Бараноўскага, запрапанаваў наагул рэабілітаваць Армію Краёвую, што не ўваходзіць у кампэтэнцыю камісіі. Разам з тым Польшча не падала патрэбных дакумантаў, акрамя копіі даведкі пра рэпрэсіўныя акцыі партызанаў супраць Арміі Краёвай. Неадназначны пагляд на дзейнасьць польскіх фармаваньняў на тэрыторыі Беларусі ў гады Другой сусьветнай вайны даюць дакуманты пра сутычкі з партызанамі, пра рэпрэсіўныя дзеяньні «акоўцаў» супраць мірнага насельніцтва. Галоўнаю задачаю Арміі Краёвай, як лічаць сябры камісіі, было адраджэньне Польшчы ў межах 1 верасьня 1939 г., таму жаўнеры ня надта ірваліся ў бой і трымалі часьцей стрэльбу каля нагі.

Цяпер на Беларусі налічваецца каля 20-ці былых салдатаў Арміі Краёвай.

*"Свабода"* **Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# «ЛІЦВІНЫ» І «РУСКІЯ БЕЛАРУСЫ»

## *Нас зноў спрабуюць падзяліць*

У газеце «Белорусская нива» за 4 снежня надрукаваны вялікі артыкул пад сімвалічнай назвай «Примет ли нас Россия?» Пад артыкулам подпіс: «Муза Тарасевіч, г. Віцебск». Праўду сказаць, даўно прыглядваюся да гэтага горада, напэўна, самага небеларускага горада на Беларусі, дзе процістаянне нацыянальнаму адраджэнню вельмі моцнае і на афіцыйным, і на бытавым узроўні. Нарадзіўся нават анекдот, што калі пан Жырыноўскі і далучыць Беларусь да новай сваёй імперыі, то Мінск ён зруйнуе за ранейшы не зусім лагодны прыём, а цэнтрам адзінай тут губерні стане Віцебск, як найбольш расейскі, «свой» горад.

Калі ж сур'ёзна, захацелася сустрэцца з аўтарам артыкула, паспрабаваць па-чалавечы зразумець адкрытых праціўнікаў нашага суверэнітэту і нашага нацыянальнага шляху. Адшукаць у Віцебску М. Тарасевіч аказалася даволі проста. Успомніў, што яшчэ з мінулай восені захоўваю адозву да бацькоў віцебскіх школьнікаў, у якой яны заклікаюцца супраціўляцца беларусізацыі школы. Пад той адозвай змешчаны тэлефон для кансультацый. Вось і звярнуўся за кансультацыяй. І аказалася, што гэта кватэрны тэлефон М. Тарасевіч, сакратара мясцовага аддзялення Славянскага Сабора «Белая Русь».

Сустрэліся мы з Музай Іванаўнай у фае абласной бібліятэкі, пад бюстам Леніна, імя якога гэта бібліятэка і носіць і які так хораша пісаў пра правы нацый на самавызначэнне. Сімпатычная, бадзёрая, нягледзячы на пенсійны ўзрост, жанчына. У мінулым інжынер. Цікавасць да палітыкі, да моўных праблем узнікла стыхійна, ад катэгарычнага непрыняцця «сілай навязваемай», на яе погляд, беларусізацыі. Потым было вывучэнне літаратуры, пошук крыніц, шматлікія артыкулы, адозвы. Сёння Муза Іванаўна, можна сказаць, адзін з тэарэтыкаў Славянскага Сабора і ўсяго гэтага напрамку ў нашым палітычным жыцці, яе імя, як кажуць, на слыху. І я не здзіўлюся, калі праз нейкі час мы зможам убачыць яе ў сценах новага парламента.

А між іншым і яна, і многія актывісты «Белай Русі» выйшлі з віцебскага клуба дэмакратычных выбараў. Тады аб'ядналіся ўсе, хто ўбачыў бесперспектыўнасць таталітарнай сістэмы, стаў яе магільшчыкам. Ну а потым ужо адбыліся адгалінаванні ў процістаячыя сёння адна адной партыі. Славянскі Сабор у Віцебску налічвае сёння некалькі дзесяткаў актыўных сяброў. Але тое, што іх думкі і падыходы падзяляюцца ў горадзе вельмі многімі, адназначна.

Уласна кажучы, тэарэтычны падмурак гэтай партыі вядомы. Ён пададзены і ў згаданым у пачатку артыкуле, і ў іншых выступленнях. Непрыняцце незалежнасці, вяртанне не толькі да былога СССР, але далей — да былой Расіі, бачанне беларусаў як «наречия» і «малодшага брата»... Але гутарка з Музай Іванаўнай, з якой мы пазбеглі варажнечы, былі, на мой погляд, досыць шчырымі, дазволіла мне ўбачыць ідэалогію даволі распаўсюджанага на Беларусі руху ў новым святле. Яна, калі можна так сказаць, «памякчэла» і неяк «ачалавечылася», але не страціла ад гэтага сваёй небяспекі для нашай маладой незалежнасці. Трэба сказаць, у асяроддзі гэтага руху для нас знойдзены крыху іншы тэрмін — нас называюць «самасційнікамі», магчыма, стараючыся давесці, што і назвы сваёй не маем.

Можна зразумець тэарэтыкаў Славянскага Сабора. Навошта варта бясконца паўтараць, што беларускі народ — гэта частка рускага, што беларуская мова — толькі «наречие»? Увесь жа свет бачыць, што на Беларусі нацыянальнае адраджэнне сваёй штодзённай практыкай абвяргае гэтыя пастулаты. Таму ў Музы Іванаўны і у яе аднадумцаў сёння крышачку іншы падыход. Пастараюся коратка перадаць яго чытачам. Тутэйшыя землі безумоўна, старажытнарускія, і самыя старэйшыя гарады на тутэйшых землях, безумоўна, старажытнарускія. І ўся культура тых стагоддзяў, уключаючы велічную постаць Скарыны, адносіцца, безумоўна, да рускай культуры. Беларусы, якія насялялі і насяляюць гэтыя землі, маюць пэўныя этнічныя адрозненні ад велікаросаў, але гэта галіны аднаго дрэва. А вось падчас каталіцкай экспансіі на Беларусь, асабліва падчас узнікнення і распаўсюджання уніі, узнікла ліцвінская культура (чытай: беларуская). Пасля раздзелаў Польшчы, пасля прымусовага скасавання уніяцтва, гэта не вельмі развітая, але адметная культура, як кажуць, зменшыла свой арэал. Сялянскія і бедныя гарадскія масы былі ад яе адлучаны, прыхінуліся да магутнай рускай культуры, рускай мовы. Але ліцвінскі менталітэт захаваўся ў шляхецкім нешматлікім асяроддзі. Вось яны сапраўды марылі аб беларускай ліцвінскай дзяржаўнасці, аб сваім шляху, часам выступалі супраць расійскага панавання са зброяй у руках. А народ як быў маўклівы, так і застаўся. Больш таго, па гэтай тэорыі, адарванне ад польскай мовы і культуры і далучэнне да мовы і культуры рускай ён прыняў ахвотна.

Муза Іванаўна прызнае, што, нарадзіўшыся на Ушаччыне, яна першыя гады вясковага жыцця размаўляла па-беларуску, на тым «дыялекце» рускага, які пануе ў іх мясцовасці. Але потым яе шлях, натуральны шлях, на яе погляд, быў адзін — у рускія беларусы. Тыя з ліцвінаў, хто ідзе ад вясковай гаворкі ў бок літаратурнай беларускай, ліцвінскай мовы, таксама ідуць натуральным для сябе шляхам. Але сапраўдных ліцвінаў на Беларусі няшмат, патомкі шляхты, пазнякі ды бэнээфаўцы. Калі ж да ліцвінскай, беларускай мовы прымушаюць далучацца «рускіх беларусаў» — то гэта ўжо парушэнне правоў чалавека.

Такая вось тэорыя. Яна, між іншым, цудоўна апраўдвае далейшае патрабаванне надання рускай мове статуса другой дзяржаўнай. Ёсць нават зварот «рускіх беларусаў» да ліцвінаў: давайце жыць дружна. У адной краіне, кожны са сваёй мовай, тады, магчыма, мы і далучэння да Расіі патрабаваць не будзем.

— Муза Іванаўна, а такая вось сітуацыя. Я не са шляхты, мае продкі ва ўсіх каленах сяляне, «рускі беларус» па- вашаму. А вось прыхінуўся не да той мовы, лічу яе роднай?

Аказваецца, і гэта бывае, ну, зрабіў чалавек асабісты выбар.

— Але ж больш васьмідзесяці працэнтаў беларусаў называюць роднай мовай менавіта беларускую, хоць многія пры гэтым прызнаюць, што валодаюць ёю дрэнна.

А гэта, аказваецца, ад цемнаты народнай, гэта каварныя ліцвіны так ставяць пытанні ў анкетах, што «рускі беларус» вымушаны называць сябе проста беларусам.

І не трэба ўсміхацца, чытач. Якія толькі тэорыі ў наш раз'ятраны век не авалодваюць грамадствам. Пры ўсёй дзіўнасці гэтай тэорыі пад яе падводзіцца вельмі надзейная глеба. Школы застануцца на Беларусі рускімі, сродкі масавай інфармацыі і гэтак далей — рускімі. У такім выпадку можна нават усклікнуць:

— Руку на дружбу, спадары ліцвіны!

Прычым сённяшнія тэарэтыкі «рускіх беларусаў» нават не адмаўляюць, што выкараненне ліцвінскай культуры і мовы з Беларусі ці то пры царызме ці то пры бальшавізме ішло сілавымі метадамі, што яна падчас адбіралася ў ліцвіна ці іншага носьбіта разам з жыццём. Ну што ты зробіш, так складваліся абставіны, гістарычная непазбежнасць такая.

А каб адрадзіць высечанае? Не, ні ў якім разе. Гэта ўжо прымус і парушэнне правоў чалавека. Вось і бедная Праваслаўная царква на Беларусі пачынае пакутаваць ад каварных ліцвінаў, ад іх празмернай актыўнасці.

Але досыць. Думаю, што гэта толькі першае знаёмства з тэорыяй ды «рускімі беларусамі». Нам яшчэ давядзецца шмат пачуць ды прачытаць пра іх.

На заканчэнне адзін штрых. Я спытаў у Музы Іванаўны, а ці не здаецца ёй, што моўнае і культурнае процістаянне ў будучым можа выліцца ў нешта больш пагрозлівае і нават крывавае.

— Не выльецца, калі ліцвіны зразумеюць, хто яны ёсць на гэтай зямлі і на што яны маюць права прэтэндаваць.

Відаць, межы гэтых прэтэнзій для ліцвінаў вызначыць «Белая Русь»: ну, там газетку «на мове», ну, песеньку па радыё... Атрымаў я і запэўніванне, што «рускія беларусы» ў выпадку няўдачы сваіх планаў будуць апеляваць і да Расіі Жырыноўскага. Ну а далей сцэнарый вядомы: ліцвінам месца на гэтай зямлі не застанецца.

*"Звязда"* **Алесь КАСЦЕНЬ.**

# У СФЕРЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАЛІТЫКІ

**Настаўніцкая газета**

Педагагічная інтэлігенцыя, што актыўна ўключылася ў рух за стварэнне нацыянальнай школы, не стаяла ўбаку і ад іншых важных падзей, што адбываліся ў той час у знявечаным вайной краі. Таму ніяк не здзіўляе, што патрыятычна настроеныя настаўнікі былі сярод дэлегатаў ад беларускіх партыйных і грамадскіх арганізацый, што сабраліся 10 ліпеня 1917 года ў Менску. Тут яны аднавілі Беларускі Вучыцельскі Хаўрус, што быў разгромлены расійскім рэакцыйным рэжымам у 1906 годзе. Адноўлены Хаўрус галоўную мэту бачыў у стварэнні беларускай нацыянальнай школы. Гэтую ідэю актыўна прапагандавала газета "Вольная Беларусь" (Менск, май — лістапад 1918 г., выдавец Беларускі Нацыянальны Камітэт, рэдактар Язэп Лёсік). Словам, Кастрычніцкі пераварот 1917 года застаў беларускае настаўніцтва ў самы разгар яго змагання за нацыянальную школу, у якой тады многія бачылі — і справядліва бачылі — найважнейшы сродак выратавання беларускага народа ад канчатковага знікнення з этнаграфічнай карты свету. Разбуджаныя да нацыянальнага жыцця настаўнікі актыўна падтрымлівалі ўсе мерапрыемствы адраджэнскага характару, што праводзіў урад створанай 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі. Ужо ў наступным месяцы Народны Сакратарыят БНР прыняў пастанову, якой беларуская мова аб'яўлялася дзяржаўнай і абавязковай на ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Урад усяляк дапамагаў адкрыццю беларускіх нацыянальных школ, стварэнню і развіццю паліграфічнай базы па выданні беларускіх падручнікаў і дапаможнікаў. Прыклад ва ўсім гэтым паказваў Менск, дзе ўжо ў пачатку чэрвеня 1918 года каля двух дзесяткаў пачатковых школ вялі навучанне на беларускай мове.

Урад БНР, нягледзячы на панаванне кайзераўскага акупацыйнага рэжыму, рабіў канкрэтныя крокі па заснаванні ў Менску Беларускага універсітэта, які павінен быў прыступіць да навучання моладзі ў пачатку 1919 года. Створаную для гэтых мэтаў камісію ўзначаліў прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі. Ведаючы, як настаўніцтва слаба дасведчана ў пытаннях нацыянальнай гісторыі і культуры, у чым "заслуга" вышэйшай школы Расіі, Народны Сакратарыят Асветы БНР у красавіку 1918 года арганізаваў для іх курсы беларусазнаўства, беларускай культуры і лекцыі па гісторыі і геаграфіі роднага краю, беларускай культуры і мове, гісторыі беларускага права. Адразу на вучобу залічылі больш 200 чалавек. Для чытання лекцый запрашаліся самыя адукаваныя людзі, у іх ліку Язэп Варонка (першы старшыня Рады БНР), географ Аркадзь Смоліч, мовазнавец Язэп Лёсік. Акрамя курсаў беларусазнаўства, пазней, з верасня 1918 года, адкрыліся і спецыяльныя курсы па падрыхтоўцы настаўнікаў беларускіх школ. У Слуцку і Будславе (Мядзельшчына) працавалі беларускія настаўніцкія гімназіі, у Свіслачы, як зазначалася вышэй, настаўніцкая семінарыя.

Увесь час удасканальвалася структура кіравання народнай асветай. Да працы ў яе структурных звёнах далучалі самых свядомых вучоных. Так, створаную ў адпаведнасці з распараджэннем Народнага Сакратарыята БНР у канцы кастрычніка 1918 года Акругу Народнай Асветы ўзначаліў добра вядомы ў той час філолаг-славіст Яўхім Карскі (у 1905 — 1910 гг. рэктар Варшаўскага універсітэта). У гэтай Акрузе народнымі пачатковымі школамі загадваў вучоны-філолаг Браніслаў Тарашкевіч (аўтар упершыню выдадзенай у 1918 г. "Беларускай граматыкі для школ"). Кіраваць навучальнымі ўстановамі тэхнічнага і астранамічнага профіляў было даверана Вацлаву Іваноўскаму (1880 — 1944, нарадзіўся на Лідчыне). Гэта быў вельмі адукаваны і нацыянальна свядомы чалавек, беларус з вялікай літары. Заўважу, што адзін яго брат Ежы лічыў сябе палякам, а Тадэвуш — літоўцам, і кожны з іх усё сваё жыццё прысвяціў нацыянальным ідэалам гэтых народаў. Вацлаву Іваноўскаму, выпускніку Пецярбургскага універсітэта, да таго, як заняць гэтую высокую пасаду ва ўрадзе БНР, удалося вельмі многае зрабіць для беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння: быў лідэрам створанай ім Пецярбургскай Беларускай рэвалюцыйнай партыі, вядомым дзеячам Беларускай Сацыялістычнай Грамады, адным з арганізатараў і кіраўнікоў беларускай выдавецкай суполкі ў Пецярбурзе "Загляне сонца і ў наша аконца", старшынёй заснаванага ў ліпені 1913 года ў Вільні Беларускага выдавецкага таварыства. Як толькі ў сакавіку 1918 года была абвешчана БНР, В.Іваноўскі жыў адной думкай: вярнуцца на Беларусь. Адбылося гэта восенню 1918 года. Сваю працу ў наркамаце асветы БНР ён лічыў настолькі патрэбнай народу, што нават не пажадаў пакінуць Мінск, калі сюды пасля адыходу нямецкіх акупантаў уступілі войскі Чырвонай Арміі. Зусім інакш паставіліся да яго асветніцкай дзейнасці савецкія органы: у пачатку лютага 1919 года арыштоўваюць і вязуць у Смаленск. Праўда, не надоўга. Пасля вяртання ў Мінск ён ізноў уключаецца ў педагагічную дзейнасць: працуе ў пэдінстытуце, арганізуе выданне падручнікаў.

Гаворачы пра людзей, якія закладвалі першыя падваліны ў беларускую нацыянальную асвету, ніяк нельга абмінуць увагай актыўнага дзеяча Беларускай Сацыялістычнай Грамады, народнага сакратара асветы ў Радзе БНР Аркадзя Смоліча. Адначасова ён з'яўляўся і намеснікам кіраўніка гэтай рады Язэпа Варонкі, а як толькі трохі адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці, пачаў чытаць лекцыі па беларусазнаўстве на арганізаваных ім жа самім курсах, напісаў і выдаў у 1919 годзе ў Вільні падручнік "Геаграфія Беларусі", па якім вучылася не адно пакаленне беларускай моладзі. Два апошнія яе выданні мелі назву "Геаграфія Бацькаўшчыны".

Для схілення настаўнікаў на шырокі шлях нацыянальна-культурнага Адраджэння шмат папрацавалі і іншыя прадстаўнікі беларускай нацыянальна-патрыятычнай інтэлігенцыі. І папрацавалі недарма, бо шэрагі сапраўдных змагароў за такое Адраджэнне стала раслі сярод настаўнікаў. Пры іх непасрэдным удзеле адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пачалі ствараццa з найбольш нацыянальнасвядомых вучняў скаўцкія арганізацыі. Накшталт такіх аб'яднанняў дзяцей і юнакоў іншых краін Еўропы, і ў нас яны мелі ў той час яскрава ваенна-палітычны, нацыянальна-патрыятычны накірунак. У Мінску ініцыятарам стварэння такога роду культурна-асветнага, спартыўнага таварыства беларускіх скаўтаў (іх яшчэ называлі і сагайдакамі) з'явілася Менская беларуская вучнёўская Грамада, якая да гэтага паспела шмат зрабіць са сваімі сябрамі па вывучэнні роднага краю ў час правядзення экскурсій. Усю працу з вучнямі Менская беларуская вучнёўская Грамада праводзіла пад лозунгам "Няхай жыве Незалежная Беларусь". Неўзабаве нацыянальна-патрыятычны скаўцкі рух беларускіх дзяцей быў спынены, бо ў 1919 годзе адбыўся другі з'езд Расійскага Камсамола, які выказаўся за роспуск скаўцкіх арганізацый. Яго рашэнні безагаворачна падтрымаў Камсамол Беларусі.

Высокай нацыянальнай самасвядомасцю, добрым веданнем задач Адраджэння вызначаліся многія выкладчыкі педагагічных вучылішчаў, настаўніцкіх інстытутаў, што ўмела пераносілася імі на погляды, настроі і дзеянні студэнцкай моладзі. І трэба сказаць, што яна з'яўлялася вельмі актыўным змагаром за пераўтварэнне ў жыццё тых прагрэсіўных ідэй, якія некалі былі сфармуляваны нашымі студэнтамі, што вучыліся ў Пецярбурзе і тайна выдавалі часопіс "Гоман". У маі 1918 года пры садзеянні Народнага Сакратарыята БНР закладваецца "Беларуская студэнцкая райніца" з даволі прагрэсіўнымі, патрыятычнымі мэтамі, што пераканаўча вынікае з наступных слоў яе адозвы: "З абвяшчэннем незалежнай Рэспублікі Беларусь скінула апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам было накінута на яе маскоўскімі царамі, але не скінута яшчэ нацыянальна-культурнае ярмо, якое калечыць самую душу нашага народа. Нацыянальнае адраджэнне — гэта вайна культур, якая звычайна канчаецца вызваленнем прыдушанай, падняўшай штандар паўстання. У гэтым змаганні патрэбны не салдаты, а інтэлект і духоўная сіла. Тут патрэбны творцы культуры, армія інтэлігенцыі, працятай святым жаданнем культурнага росквіту для свайго народа!"

Імкненне беларускіх нацыянал-патрыётаў мець у сваім краі школу на роднай мове адразу сустрэла супраціўленне рускіх шавіністаў і польскіх нацыяналістаў. Іх зусім не радавала, што там, дзе доўгі час панавалі рускія і польскія школы, цяпер ствараюць беларускія. Былі і тады, як сёння, прапановы пытацца ў народа, на якой мове павінны вучыцца на Беларусі дзеці. Вось якую справядлівую водпаведзь даў ім на пачатку 1918 года вядомы дзеяч нацыянальна-культурнага Адраджэння, беларускі мовазнавец Язэп Лёсік: "Што значыць народ? Народ цёмны, некультурны, яго трэба навучыць. Ён не можа захацець свае беларускае школы, калі ён яе ніколі ў вочы не бачыў. Як ён можа захацець вучыцца на сваёй мове, калі за яе яго лаялі, бэсцілі, крыўдзілі і за людзей не лічылі... народ трэба навучыць, яму трэба паказаць, што пакі не запануе ў краю яго наша родная беларуская мова, да таго часу ён будзе бедны, цёмны і галодны. Толькі дэмагог і палітычны шарлатан можа спасылацца на народную цемнату. ...Дзіўная гэта прывычка ў іншых людзей спасылацца на народ там, дзе гэта саўсім недарэчы, калі хто хоча пабудаваць дом, зрабіць якую машыну, дык ён звычайна звяртаецца да спецыяліста, да тых, хто знаецца па гэтых справах; толькі ў палітыцы ды ў культурнай працы чамусь звыклі радзіцца з такім знаўцам, як цёмны, неасвечаны народ".

Працэс умацавання нацыянальных асноў асветы і асабліва пашырэння сеткі беларускіх школ не прыпыніўся і тады, калі наша зямля стала аб'ектам польскай інтэрвенцыі. Палякі не з'яўляліся прыхільнікамі такой палітыкі ў галіне народнай асветы, баючыся, што перавод яе на нацыянальны грунт выб'е з-пад ног інтэрвентаў падставы заяўляць свету, што на гэтай зямлі спрадвеку жыло і жыве польскае насельніцтва, таму ўключэнне яе ў склад Польскай дзяржавы — акт і абгрунтаваны, і справядлівы.

З усім тым прагрэсіўным, што ўдалося здзейсніць за такі сціслы тэрмін ураду БНР у нацыянальна-культурным Адраджэнні нашага краю і найперш у галіне народнай асветы, даводзілася лічыцца і створанай 1 студзеня 1919 года Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. І ў складзе яе органаў улады і кіравання было нямала апантаных адраджэнскім духам людзей. Да ліку іх у першую чаргу трэба аднесці камісара па нацыянальных справах у створаным у студзені 1919 года часовым рабоча-сялянскім савецкім урадзе Беларусі, колішняга настаўніка Фабіяна Шантыра. Незадоўга да таго, як заняць гэтую высокую і адказную пасаду, ён так выклаў свой пункт гледжання на беларускую нацыянальную школу: "Асвета і культура ў нашай мове, у духу нашай нацыі і нашай народнасці для нас цяпер патрэбны як ніколі. Яны дадуць нам можнасць падняцца з той вяковай пропасці, у каторай знаходзіцца наш народ дасюль; яны з беларуса — пакорнага слугі ўсіх, зробяць раўнапраўнага грамадзяніна, без памылак могучага каваць сваё шчасце, сваю долю; яны ўваскрасяць яго да творчай працы пад уласным нацыянальным сцягам; яны заставяць другія народы паважаць імя беларуса, а ня глядзець на яго як на нешта мёртвае, часамі з усмешкай..." Сказанае Фабіянам Шантырам пра асвету і культуру не згубіла свайго значэння і па сённяшні дзень.

Лішнім было б даказваць, наколькі прагрэсіўныя погляды Фабіяна Шантыра па нацыянальным пытанні не падабаліся сакратару ЦК КП(б)Б Вільгельму Кнорыну, намесніку старшыні СНК і наркаму па ваенных справах, старшыні ЦВК Беларусі Аляксандру Мяснікову і ім падобным дзяржаўным і партыйным дзеячам, якіх прыслала Масква ў наш край зусім не ў мэтах яго нацыянальна-культурнага Адраджэння. Ужо ў лютым 1919 года А.Мяснікоў адхіліць Фабіяна Шантыра ад абавязкаў наркама па нацыянальных справах і накіруе на службу ў Чырвоную Армію. Вясной 1920 года, калі Ф.Шантыру споўніцца ўсяго толькі 33 гады, яго абвінавацяць у нацыяналізме і расстраляюць. Гэта першая вялікая ахвяра ў нашым пасляkастрычніцкім нацыянальна-вызваленчым руху, і ёю стаў ніхто іншы, як настаўнік па адукацыі. Няцяжка сабе ўявіць, колькі карыснага для роднай Бацькаўшчыны мог бы зрабіць Ф.Шантыр, каб на яго шляху не сталі магутныя фігуры з лагера ворагаў беларускай нацыянальнай ідэі і найперш латыш Вільгельм Кнорын і армянін Аляксандр Мяснікоў, памяць аб якіх увекавечана ў нас у назвах шматлікіх гарадскіх вуліц, затое не знойдзеш сярод іх імя Ф.Шантыра.

Шмат чаго пакінуў нязздзейсненым у галіне нацыянальнай асветы ўраджэнец Уздзеншчыны, настаўнік па прафесіі Сцяпан Булат, вядомы як здольны арганізатар падпольнай барацьбы ў Мінску супраць польскіх акупантаў. У 1920 годзе ён загадваў палітычным аддзелам Наркамата асветы БССР, быў рэдактарам газеты "Савецкая Беларусь". Прозвішча Сцяпана Булата знаходзім у ліку тых 32 камуністаў, што ў лютым 1921 года накіравалі ў ЦК КП(б)Б пісьмо, у якім прасілі ўступіць у хадайніцтва перад адпаведнымі органамі Расійскай Федэрацыі з мэтай вяртання ад апошняй да Беларусі Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай губерняў і шэрагу паветаў Смаленскай губерні, дзе пераважна жыло беларускае па паходжанні насельніцтва. У пісьме пераканаўча абгрунтоўвалася неабходнасць хутчэйшага стварэння сеткі беларускіх школ, забеспячэння іх падручнікамі і дапаможнікамі, абавязковага ўжывання беларускай мовы ў службовым справаводстве. Сур'ёзнага разбору выкладзеных у пісьме пытанняў не адбылося, хаця яго аўтары і былі выкліканы ў ЦК КП(б)Б для размовы. Самыя палахлівыя тут жа адмовіліся ад свайго подпісу. У тую ж ноч Надзвычайная Камісія зрабіла вобыскі на кватэрах заваdатараў гэтай справы, а найбольш "небяспечных" арыштавала.

Зразумела, партыйныя і карныя органы асабліва былі занепакоены тым, што ў гэтай, на іх погляд небяспечнай, акцыі браў удзел далёка не радавы паводле займаемых пасад Сцяпан Булат. І хаця ў маі 1921 года ён яшчэ вышэй узняўся па службовай лесвіцы: стаў сакратаром ЦК КП(б)Б і загадчыкам аддзела агітацыі і прапаганды ў гэтым партыйным органе, ворагаў у яго не паменшала. У жніўні таго ж года трагічна абарвалася жыццё Сцяпана Булата, што вельмі ўсхвалявала беларускую нацыянальна-патрыятычную інтэлігенцыю. На гэтую трагічную падзею Янка Купала адгукнуўся вершам "На смерць Сцяпана Булата".

З вялікай увагай ставілася да выхавання моладзі ў духу адданасці нацыянальнай ідэі пакуль што яшчэ адзіная ў рэспубліцы беларускамоўная газета "Савецкая Беларусь". У адным з яе выпускаў за 1922 год адказны работнік газеты Каравайчык (медык па адукацыі) пісаў: "Вялікія надзеі ўскладае на цябе, беларускае студэнцтва, адраджаючаяся беларуская культура. З моцнай верай у твае сілы і здольнасці пазірае на цябе сёння наш народ. Дык не абмані ж яго веры і надзей!

Прыступай да працы, якая чакае цябе на беларускай ніве, заросшай дзярном і накрытай крушнямі каменняў. Расчысьці і ўзары гэту ніву, каб мелі магчымасць прабіцца ўрэшце на свет узросткі нашай, ад прыроды багатай і воляю злых людзей забітай і загнанай, беларускай культуры".

У той жа газеце правільна выклаў пазіцыю педагога ў справе нацыянальга Адраджэння аўтар артыкула "Беларускае настаўніцтва", які ўтаіў сябе пад крыптанімам Н.: "Беларускі настаўнік, — пісаў ён, — павінен быць не толькі крыніцай чыстага пазнаньня для сваіх вучняў, але павінен быць крыніцай, адкуль беларускія дзеткі маглі б чэрпаць вялікія і светлыя ідэалы нацыянальнага адраджэньня свае бацькаўшчыны, адкуль маглі б чэрпаць закаханьне свайго народу. Беларуская школа павінна выпускаць ня звычайна граматную моладзь, сьвядомых змагальнікаў за ідэі нашага адраджаючагася народу" ("Савецкая Беларусь" 1922 г.)

І лік такіх настаўнікаў з году ў год рос у нас. Для многіх з іх абвешчаная ў ліпені 1942 года беларусізацыя стала адразу ж вельмі блізкай і дарагой справай. Педагагічная інтэлігенцыя ад першых і да апошніх дзён беларусізацыі знаходзілася на правым фланзе нацыянальнага Адраджэння, пра што ўжо паспелі нямала сказаць на старонках перыядычнага друку вучоныя і публіцысты. Не абышлі гэтай славутай з'явы ў гісторыі беларускай нацыянальнай асветы і аўтары данага артыкула.

Каб не распачатая ў канцы 20- пачатку 30-х гадоў барацьба з г.зв. беларускімі нацыянальнымі дэмакратамі, дык праз дзесяць гадоў, як беларусізацыю абвясцілі дзяржаўнай палітыкай, нацыянальнай па форме і змесце была б не толькі агульнаадукацыйная, але і сярэдняя спецыяльная і вышэйшая школа. Так, на вялікі жаль, не сталася. І не сталася *па віне нацыянальнай* палітыкі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, а не якіх-небудзь недахопаў у самой беларусізацыі.

Паляванне на настаўнікаў агульнаадукацыйных школ, выкладчыкаў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў стала ці не самым распаўсюджаным прафесійным заняткам апрычнікаў НКУСа. Прычым расправа чынілася найчасцей над тым, хто выкладаў дысцыпліны гуманітарнага цыкла і асабліва беларускую мову і літаратуру, гісторыю і геаграфію. Не давалі спакою навучэнцам і студэнтам тэхнікумаў і інстытутаў. У Мінскім педагагічным інстытуце толькі на працягу 1936 года засудзілі на розныя тэрміны і накіравалі ў Новасібірскую вобласць 12 студэнтаў, у іх ліку добра вядомы на сёння паэт у эміграцыі Масей Сяднёў, паэт, драматург і празаік Тодар Лебяда (сапр.Пётр Шырокаў).

Жорсткімі, невядомымі да гэтага рэпрэсіямі ўдалося прымусіць педагагічную інтэлігенцыю, як і ўвесь беларускі народ, замаўчаць, змірыцца са сваім гаротным становішчам, але па-шчыраму палюбіць навязаны бальшавікамі сацыяльна-эканамічны лад ніяк нельга было. Незадаволеных мелася шмат як сярод тых, хто быў пазбаўлены любімай працы педагога, так і сярод тых, хто пакуль што заставаўся на службе, але не бачыў перспектывы далейшага росту з-за сваіх поглядаў на праблему нацыянальнага ў галіне народнай асветы і адносін да савецкай рэчаіснасці. Такі прыгнечаны настрой многіх людзей, вечны страх перад заўтрашнім днём не мог пэўным чынам не адбіцца на іх адносіны да парадкаў, што ўсталяваліся ў нашым краі ў перыяд фашысцкай акупацыі.

**Ефрасіння АНДРЭЕВА,**
прафесар, доктар педагагічных навук.

**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук.

# Нацыянальная валюта — не перашкода для міжнароднага супрацоўніцтва

Народная газета

**Генадзь Лыч, акадэмік, дырэктар Інстытута эканомікі Акадэміі навук Беларусі**

Пасля апублікавання ў "Народнай газеце" майго артыкула "Небяспечныя "гульні" з нацыянальнай валютай" (18.01.) мне давялося пачуць аб ім нямала самага рознага. Аднак больш за ўсё з тых размоў мяне ўразіла адна думка, якая, прызнаюся, з'явілася для мяне зусім нечаканай: быццам адмаўленне ад аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі непазбежна вядзе да істотнага згортвання існуючых паміж імі вытворчых сувязей, узводзіць вельмі сур'ёзныя, проста-такі непераадольныя перашкоды на шляху ўтварэння ў межах СНД эканамічнага саюза, больш таго, наносіць непапраўную шкоду даўняй дружбе двух нашых братніх славянскіх народаў.

Гэтая думка ўяўляецца мне не толькі памылковай, але і небяспечнай. Між тым у апошні час аб ёй вельмі часта можна пачуць па тэлебачанню і радыё, прачытаць у рэспубліканскім друку. Ствараецца ўражанне, што яна выкарыстоўваецца ў якасці аднаго з асноўных аргументаў на карысць утварэння адзінай рублёвай зоны Беларусі і Расіі.

З тым, каб засцерагчы беларускі народ ад прыняцця няправільнага рашэння пры вызначэнні шляху свайго далейшага сацыяльна-эканамічнага развіцця, я і палічыў сябе абавязаным яшчэ раз праз газету выказаць свае меркаванні па дадзенай лёсавызначальнай праблеме. Перш за ўсё хачу запэўніць, што адмаўленне Беларусі ад аб'яднання сваёй грашовай сістэмы з Расіяй ні ў якім разе не з'яўляецца і не можа стаць перашкодай на шляху як стварэння ў межах СНД эканамічнага саюза, так і развіцця цесных двухбаковых вытворчых сувязяў і эканамічных адносін паміж нашымі дзвюма суседнімі краінамі. Яшчэ менш падстаў для таго, каб яно магло адмоўна адбіцца на дружбе беларускага з вялікім рускім народам.

На чым грунтуецца гэтае маё перакананне? У першую чаргу на сусветным вопыце міждзяржаўных эканамічных адносін. Свету вядомы многія розныя эканамічныя саюзы. Але ні адзін з іх не грунтаваўся і не грунтуецца на адзінай грашовай сістэме краін-удзельніц.

У апошні час у пошуках уласнага шляху мы ўсё часцей скіроўваем свае позіркі на Захад, да Еўрапейскага эканамічнага саюза. У сувязі з гэтым давайце нагадаем сабе яго гісторыю, успомнім, з чаго пачыналі заходнееўрапейскія краіны сваю ўзаемную эканамічную інтэграцыю і чаго, урэшце рэшт, яны дамагліся.

Як вядома, на сённяшні дзень гэтыя краіны маюць агульнапрызнаныя дасягненні ў галіне эканамічнай інтэграцыі. У дадзеных адносінах яны нават могуць служыць своеасаблівым прыкладам. І тым не менш адзінай грашовай сістэмы яны так і не стварылі, хаця і заяўлялі аб гэтым не адзін раз.

А пачыналі заходнееўрапейскія краіны ўзаемную інтэграцыю са стварэння агульнага рынку і плацежнага саюза. У прыватнасці, апошні быў утвораны ў 1950 годзе. Краіны-ўдзельніцы саюза разлічваліся паміж сабой з дапамогаю нацыянальных валют па прынцыпу шматбаковага клірынгу. Сальда ж, што ўтварылася ў выніку шматбаковых разлікаў, даўжнікі вярталі сваім крэдыторам у асноўным доларамі.

Трэба сказаць, за час свайго існавання (да 1958 года) Еўрапейскі плацежны саюз адыграў немалаважную станоўчую ролю ў аднаўленні разбуранай вайной эканомікі Заходняй Еўропы. Па сутнасці, напачатку ён стаў адным з асноўных падмуркаў інтэграцыі нацыянальных эканомік, яе няўхільнага паглыблення ў самых розных напрамках, у тым ліку і валютна-грашовых адносін.

У якасці прыкладу можна было б спаслацца і на іншыя плацежныя саюзы. Дарэчы, усе яны былі ўтвораны краінамі, якія вызначаліся абмежаванымі магчымасцямі для вытворчасці канкурэнтаздольнай прадукцыі, істотным недахопам валютных рэсурсаў і капіталаў, а таксама слабымі неканверсуемымі нацыянальнымі валютамі. Гэта значыць, менавіта тымі спецыфічнымі прыкметамі, якія характэрны для нашай сённяшняй Беларусі, а таксама для ўсіх астатніх новых незалежных дзяржаў, што ўтварыліся на месцы колішніх саюзных рэспублік.

Клірынгавыя разлікі ў межах плацежнага саюза звычайна ажыццяўляюцца цэнтральным банкам аднаго з эканамічна найбольш моцных краін-удзельніц саюза альбо спецыяльна ствараемым дзеля гэтага міждзяржаўным банкам. Для нас, на мой погляд, найбольш прымальны другі варыянт. Ён дазваляе да мінімуму звесці ўзаемную падазронасць, што існуе сягоння паміж дзяржавамі СНД і стварае сур'ёзныя перашкоды на шляху нармальнага, цывілізаванага развіцця фінансава-эканамічных адносін паміж імі.

Варта падкрэсліць яшчэ адну цікавую акалічнасць: пры ўтварэнні рэгіянальных эканамічных саюзаў ніколі ў якасці першачарговай задачы нават не ставілася неадкладнае аб'яднанне нацыянальных грашовых сістэм. Наадварот, яно разглядвалася не іначай як даволі далёкая перспектыва, як вянец усяго працяглага, агляднага працэсу міждзяржаўнай эканамічнай інтэграцыі. Мы ж з гэтага хочам пачаць наш сённяшні новы этап узаемнай інтэграцыі нацыянальных эканомік Беларусі і Расіі. Выходзіць, сягоння, як і раней, мы імкнёмся дзейнічаць не так, як усе. А дзе гарантыя, што і на гэты раз, спрабуючы аказацца разумнейшымі за ўсіх, мы зноў не застанёмся ў дурнях?

Я думаю, ніхто яе нам не дасць. Тым больш што асаблівых падстаў для яе няма і быць не можа. Куды больш іх для супроцьлеглага.

Справа ў тым, што сусветная практыка ўсё яшчэ не выпрацавала такіх дзейсных механізмаў, якія б дазвалялі надзейна забяспечыць захаванне эканамічнага, а разам з ім і палітычнага суверэнітэту кожнай з асобных краін, якія пажадалі не толькі сумесна ўтварыць адзіны эканамічны саюз, але і аб'яднаць свае нацыянальныя грашовыя сістэмы. А без гэтага ні адна краіна, якая належным чынам ставіцца да свайго суверэнітэту, не можа адважыцца на падобны рызыкоўны крок.

Ды што гаварыць аб міждзяржаўных эканамічных адносінах! Паспрабуйце так аб'яднаць бюджэты дзвюх сем'яў, звязаных паміж сабой самым блізкім кроўным сваяцтвам (напрыклад, сем'і бацькоў і аднаго з іх дарослых дзяцей), каб члены абедзвюх сем'яў доўгі час заставаліся задаволенымі. Вельмі хутка вы пераканаецеся: практычна гэта амаль немагчыма. Нават калі напачатку абодва бакі будуць імкнуцца да поўнай згоды. Рана ці позна іх дружба абавязкова дасць трэшчыну, якая ў хуткім часе пераўтворыцца ў сапраўдную прорву, пасля чаго ўсякаму супрацоўніцтву і шчырай дружбе прыйдзе канец.

Асабліва непажаданыя вынікі можа даць аб'яднанне сямейных бюджэтаў бацькоў і іх дарослага сына ці дачкі, калі, апрача іх, бацькі маюць таксама іншых дзяцей. У падобных выпадках падзел дзяцей на "сынкоў" і "пасынкаў" непазбежны. А гэта, у сваю чаргу, непазбежна прывядзе да поўнага разладу, а то і да варожасці паміж роднымі братамі і сёстрамі, што іначай як сямейнай трагедыяй і не назавеш.

А, між тым, менавіта нешта падобнае адбываецца сягоння ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Наша кіраўніцтва, нягледзячы ні на што, настойліва дамагаецца стварэння адзінай з Расіяй грашовай сістэмы. Паколькі большасць іншых краін — удзельніц СНД — на гэта не ідзе, то мы, па сутнасці, спрабуем асабіста для сябе ўсталяваць з Расіяй асаблівыя, на думку нашых кіраўнікоў, найбольш спрыяльныя для эканамічнага і сацыяльнага развіцця Беларусі адносіны. Але ж тым самым мы істотна ўскладняем задачу астатніх краін Садружнасці, якія, у сваю чаргу, таксама хацелі б мець з Расіяй больш выгадныя для сябе фінансава-эканамічныя адносіны. Праўда, на прынцыпова іншай аснове — на базе захавання сваіх нацыянальных грашовых сістэм.

Не трэба быць ні палітыкам, ні эканамістам-міжнароднікам, каб зразумець: такія паводзіны нашага кіраўніцтва не на карысць эканамічнаму супрацоўніцтву і дружбе Рэспублікі Беларусь і беларускага народа з усімі астатнімі краінамі і народамі СНД. У прыватнасці з Украінай, Казахстанам і Узбекістанам, з якімі нас звязваюць шматбаковыя цесныя і даўнія ўзаемавыгадныя сувязі.

Тым самым, побач з Расіяй, мы можам з'явіцца галоўнай прычынай поўнага развалу Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Падобна таму як зусім нядаўна разам з Расіяй і Украінай узялі на сябе ініцыятыву і поўную адказнасць за канчатковы развал колішняга Саюза ССР.

Між тым, гэта было б для нас недаравальнай памылкай. Бо на сённяшні дзень СНД, па сутнасці, з'яўляецца адзінай рэальнай арганізацыйна-палітычнай асновай для стварэння дзейснага эканамічнага саюза новых незалежных дзяржаў, колішніх саюзных рэспублік. Таго міждзяржаўнага эканамічнага саюза, без якога не змогуць выйсці без вялізных матэрыяльных страт і народных пакут з сучаснага сацыяльна-эканамічнага крызісу ні Беларусь, ні любая іншая краіна — удзельніца Садружнасці.

Можна і трэба крытыкаваць СНД за яе бездапаможнасць у справе рэгулявання міждзяржаўных адносін. Але ж ці правільна, зыходзячы толькі з гэтага, развальваць Садружнасць? Ці не лепш зрабіць усё неабходнае для таго, каб яна запрацавала на поўную моц, стала здольнай забяспечыць паслядоўнае ўсталяванне раўнапраўных, цывілізаваных адносін паміж краінамі — удзельніцамі СНД?

Нельга не ўлічваць, што істотнае пагоршанне адносін Рэспублікі Беларусь з іншымі краінамі Садружнасці, тым больш з такімі, як Украіна, Казахстан і Узбекістан, непазбежна прывядзе да небяспечнага звужэння нашай эканамічнай свабоды, якая і без таго вельмі абмежаваная. Мы пападзём у яшчэ большую залежнасць ад Расіі, і пры выпрацоўцы практычна ўсіх сваіх найбольш важных гаспадарчых рашэнняў нашы дзяржаўныя і гаспадарчыя кіраўнікі будуць вымушаны ўзгадняць іх з расійскім кіраўніцтвам. А гэта азначае, што мы, па сутнасці, не будзем мець той эканамічнай свабоды, без якой не можа быць ніякай гаворкі аб нашым эканамічным суверэнітэце.

У нашых кіраўнікоў практычна застанецца толькі адзіны магчымы шлях забеспячэння рэалізацыі нацыянальных інтарэсаў беларускага народа — праз дамаганне асаблівых прыяцельскіх адносін да сябе расійскіх дзяржаўных лідэраў. Але ж са сваёй нядаўняй гісторыі, калі Беларусь была ў складзе колішняга СССР, мы добра ведаем, наколькі гэта ненадзейны, хісткі фундамент для такога грандыёзнага збудавання, як міждзяржаўныя эканамічныя адносіны. Надта ж лёгка і хутка асобасныя ўзаемаадносіны дзяржаўных і палітычных дзеячаў могуць кардынальна мяняцца, чаго эканоміка проста не пераносіць.

Таму куды больш надзейна для Беларусі будаваць свае эканамічныя адносіны з усімі іншымі краінамі, у тым ліку з Расіяй, на грунце не імгненных суб'ектыўных пажаданняў і памкненняў асобных дзяржаўных лідэраў, якія прыходзяць і адыходзяць, а доўгатэрміновых фактараў, што зыходзяць з аб'ектыўных умоў існавання і вышэйшых нацыянальных інтарэсаў кожнай з дзяржаў, каторыя пажадалі ўсталяваць паміж сабой тыя ці іншыя эканамічныя адносіны. Пры гэтым трэба настойліва дамагацца раўнапраўных, узаемавыгадных адносін, якія б засноўваліся на балансе інтарэсаў розных краін, а не пакорна выпрошваць для сябе міласціну. Тады б не прыйшлося нам чуць тыя крыўдныя папрокі на свой адрас, што часта гучаць у апошні час з боку расійскіх эканамістаў і асобных палітыкаў. Вось што напісаў, напрыклад, А.Іларыёнаў, кіраўнік групы аналізу і планавання Старшыні Ўрада Расіі, у сваім артыкуле "Россия будет платить за ошибки белорусских властей", надрукаваным у першым нумары газеты "Финансовые известия" за бягучы год: "Входя в рублевую зону, оно (беларускае рэспубліканскае кіраўніцтва — **Г.Л.**) надеется (и благодаря ЦБР отнюдь не беспочвенно) по-прежнему продолжать перекладывать на плечи "нового старого" партнера свои собственные экономические трудности".

Стаўшы на шлях усталявання з Расіяй і ўсімі іншымі краінамі — удзельніцамі СНД — цывілізаваных міждзяржаўных адносін, мы б тым самым пачалі паслядоўна закладваць надзейны падмурак для якасна новай, больш трывалай дружбы з усімі народамі, што насяляюць прасторы былога Савецкага Саюза. Той дружбы, пры якой не будзе больш месца для ўзаемных абвінавачванняў, накшталт, напрыклад, такога: мы вас кормім, а любая рэальная дапамога адной краіны другой будзе ўспрымацца як душэўны парыў лепшага сябра, а не як адміністрацыйная прымусоўка.

І апошняе. У рэшце рэшт, усім нам трэба зразумець, што як утварэнне адзінай з Расіяй рублёвай зоны, так і ўвядзенне Беларуссю сваёй нацыянальнай валюты не з'яўляецца і не можа з'явіцца панацэяй ад усіх нашых эканамічных і сацыяльных бед. Толькі нашая напружаная і мэтанакіраваная праца, памножаная на ўласны розум і міжнароднае супрацоўніцтва, якое натхняецца дружбай народаў, можа дазволіць нам паспяхова пераадолець усе тыя цяжкасці, што густым частаколам паўсталі на нашым жыццёвым шляху. Толькі такім чынам мы зможам здабыць сабе шчаслівую долю. А таму нельга нам болей працягваць верыць і чакаць якогасьці "цуда", якое абавязкова пашле нам Бог, альбо шукаць для сябе "лёгкага хлеба". Даўно пара ўсім разам і кожнаму паасобку пачаць актыўна дзейнічаць. Інакш нам ніяк не ўратавацца ад той катастрофы, што ўсё больш пагрозліва засцілае наш жыццёвы гарызонт.

## Аматары пазагараць былі бязлітасна падмануты

**"Не ўсё золата, што блішчыць" — у справядлівасці гэтай старажытнай мудрасці на ўласным вопыце пераканаўся 741 жыхар Чэшскай Рэспублікі.**

Менавіта такая колькасць грамадзян спакусілася на прапанову турыстычнага агенцтва "Юніён" правесці тыдзень-другі на пляжах Фларыды, Багамскіх і Гавайскіх астравоў, заплаціўшы за пералёт і пражыванне ў прыстойных атэлях з поўным пансіёнам усяго каля 800 долараў. Гэта прыкладна на трэць танней звычайнага.

Але ніхто з даверлівых аматараў заакіянскага загару так і не папесціўся на заманлівых пляжах. Напярэдадні адлёту першай групы супрацоўнікі агенцтва "Юніён" атрымалі ад свайго фларыдскага партнёра — бюро падарожжаў "К энд к уорлд трэвел" — па факсу паведамленне, што ўсё адмяняецца "па арганізацыйна-тэхнічных прычынах". Тэлефонныя чэшска-амерыканскія перагаворы не прасвятлілі сітуацыю. Турысты асадзілі канцылярыю "Юніён", патрабуючы хаця б вярнуць свае кроўныя грошыкі.

Няўдачныя пасрэднікі з агенцтва "Юніён" звярнуліся ў кампетэнтныя органы. Тамашнія спецыялісты хутка высветлілі, што, затраціўшы 1 мільён крон на шумную рэкламную кампанію ў сродках масавай інфармацыі Чэхіі, прадпрымальныя жулікі з далёкай Фларыды зарабілі "чыстымі" 250 тысяч долараў і што вярнуць іх законным уладальнікам, мякка кажучы, праблематычна.

## З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

**Яшчэ ў XIV ст. пачалася распрацоўка канстытуцыйнага права ў Беларусі. Але найбольш поўна канстытуцыйныя нормы былі выкладзены ў Статутах Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і асабліва 1588 года. Праз увесь Статут 1588 г. праводзіцца ідэя ўмацавання прававога парадку, пры якім усе дзяржаўныя органы і службовыя асобы абавязаны дзейнічаць толькі ў адпаведнасці з законам. Характэрна, што гэты Статут замацоўваў і юрыдычна афармляў незалежнасць беларускага гаспадарства.**

**Надрукаваны ён быў у Вільні, на беларускай мове, а пазней неаднаразова перакладаўся на іншыя еўрапейскія мовы. Па дасканаласці і лагічнай завершанасці яму не было роўных у тагачаснай Еўропе. Наш Статут значна ўплываў на заканатворчасць суседніх народаў: польскага, украінскага, рускага, латвійскага, эстонскага, прускага. Усё гэта сведчыць пра высокі ўзровень развіцця юрыдычнай думкі і дзяржаўных інстытутаў Беларусі ў яе «залаты век».**

## *УШАНАВАЦЬ ІМЯ ВЫДАТНАГА СЫНА БЕЛАРУСІ*

*У Рэспубліцы Беларусь ажыцьцяўляюцца намаганьні па дастойнаму ўшанаваньню імя выдатнага паэта і кампазытара, таленавітага мастака сярэдзіны XIX стагодзьдзя, ураджэнца в. Варацэвічы Іванаўскага раёна Напалеона Арды.*

*Дзякуючы фенамэнальнаму таленту, невычарпальнай працавітасьці і настойлівасьці Н, Ардзе ўдалося стварыць праз тысячы мастацкіх палотнаў мастацка-гістарычны вобраз Беларусі, перадаць яго будучым пакаленьням.*

*Н. Арда вядомы таксама як рэвалюцыйны дзеяч, актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага паўстаньня 1830-31 гадоў. Эміграваўшы за мяжу, ён знаёміцца і супрацоўнічае з сусьветна вядомымі музыкантамі Ф. Лістам і Ф. Шапэнам, пісьменьнікам А. Міцкевічам. У 1843 годзе Н. Арда, як прызнаны аўтарытэт у галіне музыказнаўства, становіцца дырэктарам прэстыжнага і вядомага ў Эўропе тэатра Італьянскай оперы ў Парыжы.*

*У сёньняшні час нацыянальнага адраджэньня Бацькаўшчыны шырыцца папулярнасьць імя Н. Арды, яго неўміручых твораў, значэньне якіх у эстэтычным і інтэлектуальным выхаваньні людзей цяжка пераацаніць. Узрастае практычнае значэньне яго архітэктурных малюнкаў пры сучасным шырокім аднаўленьні і рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.*

*У Брэсцкай вобласьці разгортваецца маштабная інфармацыйная і арганізацыйная работа па папулярызацыі творчасьці Н. Арды.Зацьверджана праграма асноўных мерапрыемстваў створана рабочая група па іх выкананьню, пачаты навукова-дасьледчыя і праектныя работы па аднаўленьню дома-сядзібы Н. Арды на яго радзіме ў в. Варацэвічы і стварэньню там мэмарыяльнага музэя.*

*Пасольства зьвяртаецца да суайчыньнікаў у ЗША і Канадзе з просьбай дапамагчы ў зборы і накіраваньні на наш адрас гістарычных зьвестак, архіўных матэрыялаў і сямейных рэліквіяў, іншых дакумэнтальных сьведчаньняў аб жыцьці і дзейнасьці Н. Арды.*

## Не стала дуба-патрыярха

З ліку помнікаў прыроды рэспубліканскага значэння выключаны дуб-двайнік, што рос непадалёку ад возера Свіцязь на Навагрудчыне.

Узрост дрэва вышынёй 22 метры і таўшчынёй ствала ў ніжняй яго частцы 1,67 метра перавысіў тры стагоддзі. З-за старасці дуб мог у любы час паваліцца і нарабіць бяды, таму што недалёка знаходзіцца вядомы ў рэспубліцы пансіянат, жыхары якога любяць гуляць па ваколіцах.

На тым месцы, дзе рос волат, вырашана ўстанавіць памятную таблічку, а вясной пасадзіць некалькі маладых дубкоў. Кажуць, для гэтага будуць выкарыстаны жалуды дуба-патрыярха.

## *КОЛЬКІ КАШТУЕ НАШ ДАЛЯР У ПОЛЬШЧЫ!*

Курс продажу долара ў Нацыянальным банку і прыватных канторах вагаецца ад 21.300 да 21.600 злотых за 1 долар ЗША. Праўда, продаж валюты нашым грамадзянам там па-ранейшаму забаронены.

## *ВЯРТАНЬНЕ НА ЗЯМЛЮ ПРОДКАЎ*

З Крысьціянам Наркевічам-Лейнам мы сустрэліся ў яго невялічкім кабінэце ў Чыкагскім Афінэўме. Даволі ўнікальны і элітарны музэй названы так, бо Афінэўм – гэта нешта накшталт месца, якому спрыяе багіня Афіна. У "Вэбстэры", слоўніку амэрыканскага варыянту ангельскай мовы нават даецца такі пераклад: "Athenaeum" – літаратурны, мастацкі або навуковы клюб, бібліятэка, чытэльня. Асноўнае прызначэньне гэтага музэя – расказ пра гісторыю і сучасныя дасягненьні архітэктуры і дызайну. Але ў сьнежні 1993 году ў галоўнай яго зале адкрылася незвычайная выстава – "Дзеці Чарнобыля", на якой экспануюцца малюнкі дзяцей, што жывуць на Беларусі ў забруджаных раёнах Гомельшчыны і Магілёўшчыны. Такая выстава магла зьявіцца тут толькі дзякуючы нястомным намаганьням, асабістай энэргіі і нават мужнасьці менавіта яго, Крысьціяна Наркевіча-Лейна, фундатара і кіраўніка Чыкагскага Афінэўма.

Адкрыты, ветлівы, вельмі падобны да беларускага тыпу шырокі твар, такі знаёмы, наш сум у вачах... Крысьціян пачаў роспавяд аб тым, што ён даўно ўжо хоча як мага болей даведацца пра свой радавод, які па матчынай лініі ідзе зь Беларусі. Летам мінулага году яму давялося ўпершыню пабываць на Беларусі, распачаць пошукі. Наваградчына (Лапушна, Агранава, Сінічава) і Ўзьдзеншчына – вось мясьціны, адкуль паходзілі дзед і бабуля Наркевіча-Лейна. Крысьціян паказвае ксэракопіі старонак з царкоўных і касьцельных кніг, дакумантаў, некаторыя старадаўнія і сучасныя здымкі, генэалягічныя схемы, а таксама фотаздымкі старой царквы, фундамэнту былога фальварку і іншыя, зробленыя падчас паездкі на Беларусь. У ліку ягоных продкаў значацца Кацюцэвічы, Радзівілы, Ёдкі, Наркевічы. З гэтай лініі, дадаў Крысьціян, і маці былога прэзыдэнта Злучаных Штатаў Джона Кэнэдзі. (Між іншым, Маклін, былая жонка славутага Прэзыдэнта, таксама з роду Радзівілаў).

Паездка на Беларусь усхвалявала, растрывожыла душу... Крысьціян Наркевіч-Лейн ня мог знайсьці аніводнага жывога хоць-бы далёкага сваяка, амаль аніякіх сьлядоў былых сядзібаў, маёнткаў... Убачыў народ, што жыве ў вельмі цяжкіх умовах, хоць і атрымаў магчымасьць стаць самастойнай дзяржавай. Убачыў усё, што зьвязана з чарнобыльскай бядой; плакаў, бачучы дзяцей у бальніцах. Адразу вырашыў: трэба прывезьці ў Амэрыку выставу дзіцячых малюнкаў, бо толькі яна зможа праўдзіва і шчыра расказаць пра ўсё тое, што бачыў ён сам.

Як аказалася, задуму ня так лёгка было зьдзейсьніць. Перамовы і розныя арганізацыйныя справы, перападоленьне розных перашкод і фармальнасьцяў занялі некалькі месяцаў. Вельмі дапамог яшчэ адзін энэргічны чалавек, дырэктар новага Беларускага музэя экалогіі і прыроды Мікола Сянкевіч.

І вось – урачыстае адкрыцьцё выставы ў цэнтры Чыкага, у адной з прэстыжных залаў. Прыйшлі вядомыя мастакі, архітэктары, бізнесмены, многія зь беларусаў, што жывуць у Чыкага, прыехаў і пасол Беларусі ў ЗША Сяргей Мартынаў.

"Цяпер я неразлучны зь Беларусьсю", – выступаючы на адкрыцьці выставы сказаў Крысьціян Наркевіч-Лейн. Ён пляную арганізаваць паказ гэтай выставы пасьля Чыкага ў Ню-Ёрку, Вашынгтоне і іншых буйных гарадох ЗША, а потым – у Францыі. Крысьціян марыць аб тым, каб надалей наладзіць паміж Амэрыкай і Беларусьсю абмен рознымі выставамі, у прыватнасьці, паказаць у Чыкага беларускае народнае дойлідства, помнікі старажытнай архітэктуры, магчыма, выставу сучаснага мастацтва. "Рэжым, які панаваў тут раней, – з тым-жа сумам у вачах гаворыць Крысьціян Наркевіч-Лейн, – забіў пакаленьне маіх бацькоў, таму і не ўбачыла сьвет маё пакаленьне... Я вельмі хачу нешта карыснае зрабіць для гэтай зямлі, памагчы трымаць высокі ўзровень яе культуры, паказаць сьвету, якая інтэлектуальна багатая была яе духоўная гісторыя".

І толькі на самым канцы даволі працяглай гутаркі Крысьціян прызнаўся, што пасьля паездкі на Беларусь напісаў верш.

Прапаную ўвазе чытачоў у маім перакладзе з ангельскай мовы верш Крысьціяна Наркевіча-Лейна "БЕЛАРУСЬ".

*Ванкарэм Нікіфаровіч,*
*м. Чыкага.*

*PS. Верш глядзі на 2-ой стар. газэты.*

* * *

— Гэта праўда, — запыталі неяк на прэс-канферэнцыі журналісты ў Кебіча, — што вашы далёкія продкі родам з Францыі?

— Чаму далёкія? — здзівіўся той. — Я ж таксама Француэвіч...

## РЫХТУЕЦЦА ВІЗІТ В. КЕБІЧА Ў ЗША

**Як стала вядома з добра інфармаванай крыніцы ў Міністэрстве замежных спраў рэспублікі, на другую палавіну года запланаваны візіт Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Падрыхтоўка да візіту пачалася ўжо.**

**Белінфарм.**

## БАЗЫЛІЯНСКІЯ МУРЫ Ў ВІЛЬНІ ВЯРНУЛІ БАЗЫЛІЯНАМ

Рашэннем літоўскага ўрада ад 25 студзеня 1994 года будынкі былога базыліянскага кляштара (вядомыя беларусам яшчэ і тым, што ў іх у 20—30-я гады гэтага стагоддзя размяшчаліся Віленская беларуская гімназія і музей) перададзены Віленскай арцыбіскупіі. Як паведаміла літоўская газета «Respublika», у гэтых будынках будзе размяшчацца базыліянскі кляштар, дзе ў бліжэйшы час з'явяцца ўжо 16 манахаў-уніятаў.

А паколькі шырокае развіццё уніяцкага манаства маецца сёння толькі сярод украінцаў, дык і паселяцца ў базыліянскіх мурах украінскія манахі. Беларускія суполкі ў Вільні звярталіся і звяртаюцца да ўрада Літвы, каб частку гэтых муроў літоўскія ўлады выдзелілі пад беларускую гімназію, аднак падстаў для станоўчага рашэння літоўскія ўлады не знайшлі. Рашэнне літоўскай дзяржаўнай камісіі грунтавалася на гістарычным заключэнні, падпісаным практычна ўсімі вядомымі літоўскімі гісторыкамі, ды на законе Літоўскай Рэспублікі ад 1920 года, які прызнаваў прысутнасць царскага рэжыму ў Літве акупацыяй, а ўсе ягоныя рашэнні па гэтай тэрыторыі — незаконнымі. У тым ліку — і скасаванне Берасцейскай уніі. *Фактычна на тэрыторыі Літвы унія аднаўляецца.*

Гэта вельмі цікавы прэцэдэнт, які можа мець значэнне і для Беларусі з Украінай, бо гістарычна канфесійныя сувязі беларусаў-уніятаў і праваслаўных заўсёды выходзілі на Вільню.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

### *Факт*

## Цыгарэты беларускія — тэхналогія амерыканская

**Відаць, недалёка той час, калі і ў Беларусі пачнуць выпускаць цыгарэты, якасць якіх будзе адпавядаць сусветнаму ўзроўню.**

Дапамагчы ім у гэтым узялася вядомая амерыканская фірма "Р.Дж.Рэйнальдс інтэрнэйшнл С.А.". Яго прадстаўнікі пабывалі ў Дзяржаўным камітэце рэспублікі па знешніх эканамічных сувязях і прадставілі свой бізнес-план па ўдасканаленню тэхналогіі выпуску вырабаў на Гродзенскай тытунёвай фабрыцы. У гэту справу заакіянскія бізнесмены вырашылі ўкласці каля 80 мільёнаў долараў, большая частка якіх пойдзе на закупку і ўстаноўку новага абсталявання.

У час перагавораў была дасягнута таксама дамоўленасць, што беларускія спецыялісты старанна вывучаць прапановы амерыканцаў, а ў канцы месяца зноў сустрэнуцца ў Мінску з кіраўніцтвам фірмы і абмяркуюць канчатковы варыянт супрацоўніцтва.

**Белінфарм.**




### *АЛІМПІЙСКІЯ МЭДАЛІ*

**MEDALS STANDING**

| | GOLD | SILVER | BRONZE | TOTAL |
|---|---|---|---|---|
| Norway | 10 | 11 | 5 | **26** |
| Germany | 9 | 7 | 8 | **24** |
| Russia | 11 | 8 | 4 | **23** |
| Italy | 7 | 5 | 8 | **20** |
| United States | 6 | 5 | 2 | **13** |
| Canada | 3 | 6 | 4 | **13** |
| Switzerland | 3 | 4 | 2 | **9** |
| Austria | 2 | 3 | 4 | **9** |
| South Korea | 4 | 1 | 1 | **6** |
| Finland | 0 | 1 | 5 | **6** |
| Japan | 1 | 2 | 2 | **5** |
| France | 0 | 1 | 4 | **5** |
| Netherlands | 0 | 1 | 3 | **4** |
| Sweden | 2 | 1 | 0 | **3** |
| Kazakhstan | 1 | 2 | 0 | **3** |
| China | 0 | 1 | 2 | **3** |
| Slovenia | 0 | 0 | 3 | **3** |
| Ukraine | 1 | 0 | 1 | **2** |
| Belarus | 0 | 2 | 0 | **2** |
| Britain | 0 | 0 | 2 | **2** |
| Uzbekistan | 1 | 0 | 0 | **1** |
| Australia | 0 | 0 | 1 | **1** |

### *Погляд з Вены*

## Каму служыць друк Беларусі?

**Як паведамляецца ў друку, дырэктар Міжнароднага інстытута прэсы, што ў Вене, Іаган П.Фрыц даў ацэнку становішча сродкаў масавай інфармацыі ў былых камуністычных краінах.**

На думку экспертаў гэтага інстытута, тут па-ранейшаму друк выконвае ролю прапаганды, з'яўляецца інструментам правядзення палітыкі ўлад, а не інфармавання насельніцтва. Асабліва ў цяжкім стане друк Беларусі, Украіны, Сербіі... Ён служыць у асноўным уладам, не дае выказвацца апазіцыі.

**Сяргей АНДРУСЕВІЧ.**

НАМ ПІШУЦЬ,
ПЫТАЮЦЬ,
РАДЗЯЦЬ...

Паважаны выдавец!

Дзякую за дасылку газэты "Беларускі Дайджэст". Пры гэтым далучаю большую ахвяру на выдавецтва.

Мне неяк ня верыцца, каб наша беларуская заплесьнелая маса падтрымала новую газэту. У гэтую масу я не залічаю некалькі дзесяткаў сапраўдных інтэлігентаў-патрыётаў, якія будуць клапаціцца пра дабро нашае сьвятое справы, – справы Адраджэньня, да канца свайго жыцьця.

Большасьць нашых людзей дзяўбуць рэшткі з рускага або польскага карытаў і цешацца сваім дабрабытам... Спрабуй, пакажы ім беларускую кнігу ці газэту, – яны ўцякаюць ад гэтага, як чорт ад кадзідла. Некаторыя зь іх насупіўшы губы і падняўшы ўверх вочы, дакляруюць сваю дапамогу беларускай справе і Бацькаўшчыне... Я ім ня веру...

С.

*Ну, ставіць справу так вострa можа ня трэба...Хто ведае, можа я памыляюся... Дзякую за дапамогу!*

*P.S. Няма змогі друкаваць усе лісты, але некаторыя больш вымоўныя і балючыя буду старацца друкаваць...*

"Праўды" няма!
"Беларусь" прадалі...
"Праца" па 10 руб.

БЕЛДРУК

Судзьдзя: – Вы калі-небудзь прыцягаліся да крымінальнай адказнасьці?
– Так, але вельмі даўно.
– А дакладней?
– Дзесяць гадоў назад.
– І што вы рабілі з таго часу?
– Як што? Сядзеў у турме...

САЮЗ ПАЛЯКАЎ БЕЛАРУСІ
230023 г. Гродна вул. Дзяржынскага, 32
тел. 44 - 94 - 57, фах. 44 - 63 - 75
Цякучы рахунак I 00700222
Абласное Упраўленне
"Белбизнэсбанк" г. Гродна




ZWIĄZEK POLAKÓW NA BIAŁORUSI
230023 Grodno ul. Dzierżyńskiego 32
tel. 44 - 94 - 57, fax 44 - 63 - 75
Konto: 1 00700222
Wojewódzki Wydział
"Bielbiznesbank"

Edward J. Moskal
Prezes Kongresu Polonii Amerykańskiej
5711 North Milwaukee Avenue
Chicago, Illinois 60646 USA

3 stycznia 1994
Grodno

Związek Polaków na Białorusi oraz Komitet Pamięci A. Mickiewicza czynią starania dla stworzenia na terenie Białorusi "Szlaku Kościuszkowskiego" na cześć 250-lecia urodzin T. Kościuszki.

W ramach tego planu przeprowadzone zostały badania archeologiczne w Mereczowszczyźnie — miejscu urodzenia T. Kościuszki. Wynikiem tych prac było odkrycie resztek XVIII-wiecznej budowy, należącej do rodziny Kościuszków. Badaniami objęte są też materiały archiwalne, związane z przechowywanym w Grodnie testamentem T. Kościuszki.

Pracom badawczym powinny towarzyszyć — i to jest bardzo ważne — wysiłki restauratorów. I tu odczuwamy pilną potrzebę poparcia ze strony Polonii, przede wszystkim amerykańskiej.

Związek Polaków na Białorusi zwraca się do Kongresu Polonii Amerykańskiej z prośbą o utworzenie w USA Fundacji, której celem byłoby zyskanie zwolenników odbudowy Szlaku Kościuszkowskiego oraz gromadzenie funduszy na odbudowę domku T. Kościuszki w Mereczowszczyźnie.

Pełnomocnikiem do spraw organizacji Fundacji mianujemy przedstawiciela Związku Polaków na Białorusi w Stanach Zjednoczonych prof. Borysa Klejna.

Łącząc pozdrowienia dla Polonii USA
Z wyrazami szacunku

Dziennik Związkowy




Tadeusz Gawin
Związek Polaków na Białorusi

## *Apel w sprawie budowy polskiej szkoły*

Od pięciu lat Związek Polaków i Towarzystwo Przyjaciół Szkoły Polskiej na Białorusi główny swój wysiłek kierują na odbudowę polsko-języcznego szkolnictwa w kraju zamieszkania. Obecnie z naszej inicjatywy uczy się języka polskiego na Białorusi w różnych formach organizacyjnych ponad 13 000 dzieci w prawie 300 szkołach. Jesteśmy świadomi tego że

**Беларускія "касьцельныя" палякі ў шапку ня сьпяць...– яны ўсяго дабіваюцца, просяць, жаляцца і жабруюць... А што мы – беларусы? А мы што? – мы спакойна сьпім у шапку...**